„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

Гэты нумар „Беларускага настаўніка” выходзіць у трыццатую гадавіну выбараў 4 чэрвеня 1989 года — дня, які сімвалічна ў Польскім тэлебачанні акцёрка Яанна Шчапкоўска аб’явіла канцом камунізму ў Польшчы. Гэты сімвал важны і для нас. Думаю, што без змены палітычнай сітуацыі і без актыўнасці ў той час саміх беларусаў, інакш выглядала б і наша грамадскае жыццё сёння. Думаю, напрыклад, што не было б навучання беларускай мове ў Беластоку, як не было яго на працягу чатырох з паловаю дзесяцігоддзяў Народнай Польшчы.

Гэтая дата важная перш-наперш для майго пакалення, якое вучылася тады ў вышэйшых школах па ўсёй Польшчы. Прыпомню: тады стваралася Беларускае аб’яднанне студэнтаў, на сябрах якога перш-наперш абапіралася наша актыўнасць у першых квазісвабодных і наступных — ужо поўнасцю дэмакратычных выбарах. Не так і важна, хто прыдумаў лозунг: „Беларусы — пра нашы справы будзем гаварыць самі!”, якім мы ўпершыню ў пасляваеннай Польшчы адкрыта заявілі не толькі пра сваю прысутнасць, але і выказалі нашу грамадска-палітычную пазіцыю. Важна, што без тых дзясятак актыўных і соцень менш актыўных маладых людзей, сфармаваных у польскіх універсітэтах, якія кішэлі прагай змен у краіне, не было б і якаснай змены ў беларускай грамадзе Беласточчыны, не было б каму таго лозунгу ўголас вымавіць.

Без перамен беларусы надалей заставаліся б вечнымі просьбітамі, надалей хадзілі б ад дзвярэй да дзвярэй, ад клямкі да клямкі і прасілі б, і плакалі б, што нам не далі ці далі замала, а нечага ўвогуле забаранілі. Мы атрымалі добрую школу свабоды і дэмакратыі: ведаем, што столькі нашага, колькі сабе выпрацуем, на колькі заслугоўваем і ніхто не мае права нам нашага забраць. Колькі каштавала заснаванне беларускіх аддзелаў у садку, а потым навучання беларускай мове ў школах Беластока, ведаюць тыя, чые дзеці заканчваюць або ўжо шчасліва закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але мы не прасілі ў нікога змілавання, а патрабавалі таго, што нам і нашым дзецям належыцца. Без дэмакратычнай Польшчы гэтага не было б.

Не было б гэтага і без тых палякаў, якія разумеюць, што Польшча — бацькаўшчына не аднае польскае нацыі, а ўсіх грамадзян, якія ў яе сённяшніх межах пражываюць. Прыкладам гэтаму з’яўляецца асоба Яцка Кураня, якому меншасныя пытанні заўсёды былі блізкія сэрцу. Дзякуючы яму ўзнікла соймавая Камісія нацыянальных меншасцей, якая працуе ва ўсіх скліканнях парламента. А яшчэ раней, напярэдадні перамен, пры Грамадзянскім камітэце Леха Валэнсы дзейнічала Камісія для кантактаў з нацыянальнымі меншасцямі. На маё пытанне як журналіста „Нівы”, ці ў той час не было больш важных праблем, у 1996 годзе Курань адказаў: „Няма больш важных спраў. Калі мы не сумеем жыць з сабою, нас безупынна будзе душыць дыктатура. (...) я ўжо даўно таму зразумеў,

што прыйшлося нам жыць на зямлі, якая з'яўляецца бацькаўшчынай многіх народаў. І межы паміж імі, як жартам сказаў прафесар Ромэр, часта ідуць праз ложак. Не можна запярэчыць, што Беласточчына гэта радзіма беларусаў, а Гродзеншчына — палякаў. (...) Калі хтосьці кажа, што Беласточчына не беларусаў, дык няхай не гаворыць, што Гродзеншчына — палякаў".

У трыццатую гадавіну грамадска-палітычных перамен у Польшчы хацелася б мне, каб як найбольш нашых суграмадзян так ставілася да іншых як Яцэк Курань (аж хочацца сказаць: з хрысціянскай любоўю)... А нам жадаю, каб мы ведалі нашы правы і ўмелі імі карыстацца. Бо мы, хоць і іншыя, але не горшыя.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Усё-такі варта было...



Мікола ВАЎРАНЮК



**Яўген Мірановіч** — гісторык, доктар гуманітарных навук (doktor habilitowany), прафесар. З 1997 года працуе ва Універсітэце ў Беластоку.
Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Алексічы. Галоўны рэдактар штотыднёвіка беларусаў Польшчы „*Ніва*" з 1992 па 1997 год, старшыня Праграмнай рады „*Нівы*" (1997-2002). Рэдактар часопіса „*Białoruskie Zeszyty Historyczne*" (з 1996). На выбарах 4 чэрвеня 1989 года быў кандыдатам Беларускага выбарчага камітэта ў дэпутаты Сойма.

— **За што рэальна змагаўся Беларускі выбарчы камітэт у чэрвені 1989 года, бо ж хіба не за пасольскае і сенатарскае крэслы?**

— Гэта была заява, што мы тут ёсць. Што ў Польшчы жывуць беларусы. Было ясна, што перамагчы мы на тых выбарах не можам, але і не можам не прыняць у іх удзелу. Падзеі тады вельмі хутка разгортваліся. Польшча выходзіла з ваеннага становішча і амаль дзесяці гадоў стагнацыі пасля яго. Інтэлігенцыя вяла бясконцыя дэбаты наконт будучыні краіны. Мы таксама — гавару пра беларускае асяроддзе па-за канцэсіянаваным уладамі Беларускім грамадска-культурным таварыствам — хацелі разважаць пра Беларусь, яе будучыню, дачыненні з суседзямі. Дзеля гэтага стварылі Беларускі клуб. Нашы лідары, Юры Туронак і Сакрат Яновіч, заахвочвалі нас перш-наперш вывучаць сваю гісторыю. Слушна, бо без гісторыі не збудуем нацыі. Мы вучыліся, дыскутавалі не толькі на сустрэчах клуба, але і на старонках падпольнага выдання „Кантакт" з падзагалоўкам

„Шляхі беларускай думкі"[1]. Ужо першы нумар, які мы выпусцілі ў пачатку 1989 года, набыў вялікі рэзананс як у Беларусі, так і ў Польшчы. Грамадзянскі камітэт Салідарнасці ў Варшаве быў адкрыты на меншасці. На адно з пасяджэнняў нашага клуба прыехаў у Беласток іх прадстаўнік Гжэгаж Кастшэва-Зорбас. Яцэк Курань моцна настойваў на тое, каб са спіска Грамадзянскага камітэта стартавалі на выбарах прадстаўнікі беларускага і ўкраінскага асяроддзяў.

Выбарчая кампанія 1989 г. Бельск-Падляшскі.




**— Украінец Уладзімір Мокры стаў дэпутатам Сойму з апазіцыйнага спіска. А беларус на ім увогуле не апынуўся. Беластоцкая Салідарнасць сабатавала ініцыятыву Варшавы?**

— Тое, што Салідарнась у Беластоку непрыхільна глядзела на беларусаў, гэта адна справа. Другая — мы таксама не маглі пайсці з іхнага спіска, хаця ідэйна былі ім вельмі блізкія. Наша вясковае і местачковае грамадства глядзела на Салідарнасць як на нацыяналістычную, ультракаталіцкую сілу, якая забярэ ўсё тое, шо дала беларусам Польская Народная Рэспубліка і зноў зробіць нас грамадзянамі другой катэгорыі. Хто б у такой сітуацыі, калі б мы балатаваліся са спіска Грамадзянскага камітэта Салідарнасці, за нас галасаваў? Палякі з-пад Ломжы? Бо ж не нашы людзі. Заставаўся адзіны выхад — стварыць свой выбарчы камітэт.

**— Ведаю Цябе як чалавека, які не мае амбіцый быць у святле тэлекамер, сядзець у першым радзе заслужаных дзеячаў, тым больш перціся на трыбуну і да нечага заклікаць. Хто і якім чынам угаварыў цябе стаць кандыдатам Беларускага выбарчага камітэта ў Сойм?**

— Бываюць такія сітуацыі, што немагчыма адмовіцца. Сакрат Яновіч, які натуральным чынам стаў нашым кандыдатам у Сенат, таксама не верыў у перамогу, але ж пайшоў на гэта. Мяне на Беласточчыне ўжо ведалі як публіцыста часопіса „Tygodnik Podlaski" (была такая рэгіянальная мутацыя агульнапольскага штотыднёвіка „Tygodnik Polski", якая выходзіла раз на месяц). Я пісаў у „Ніву", выступаў на Беластоцкім радыё. Асяроддзе проста не пакінула мне іншага выйсця.

[1] Кантакт. Шляхі беларускай думкі. 1989/90. Выйшлі чатыры нумары бюлетэня фарматам А5, ад 26 да 48 старонак.

**— Ты тады працаваў настаўнікам гісторыі ў Мастацкім ліцэі ў Супраслі.**

— Гэта была бадай найлепшая праца ў маім жыцці. Цікавыя вучні, добрыя настаўнікі, інтэлектуальнае асяроддзе. Я працаваў там дзесяць гадоў, з 1983 па 1992 год. Вельмі добра ўспамінаю той час.

**— Аднак, відаць, табе чагосьці не хапала, калі стаў шукаць беларускага інтэлектуальнага асяроддзя.**

— У 1982 годзе я вярнуўся ў Беласток з арміі і як малады чалавек шукаў свайго месца ў жыцці. Стаў наведваць мерапрыемствы ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве на вуліцы Варшаўскай. А там кожны тыдзень штосьці адбывалася. Памятаю як Сакрат Яновіч чытаў лекцыі па гісторыі. Усе слухалі, не столькі з-за зместу, хаця на той час лепшага гісторыка ў нас не было (*смех*), але з-за формы даклада. Сакрат быў выдатным расказчыкам. Завязваў кантакт са слухачамі, акрашваў свае выступленні анекдотамі, правакаваў на дыскусію. Дарэчы, вяліся тады настолькі вострыя, наколькі і абсурдныя дыскусіі, напрыклад, чыя Беласточчына — польская ці беларуская. Прычым з удзелам польскіх гісторыкаў: Юзафа Марошка, Ежы Зелянеўскага, Ежы Мілеўскага. Душой тых сустрэч быў таксама малады фізік Анатоль Адзіевіч, сёння прафесар Беластоцкага ўніверсітэта. Але менавіта знаёмства з Сакратам Яновічам было для мяне ў гэтым найважнейшае. Мы, магу гэта сказаць, пасябравалі. Сустракаліся прыватна, многа дыскутавалі і не столькі ўжо пра гісторыю, якую я стаў пазнаваць усё глыбей, а пра грамадскія справы. Сакрат быў вельмі ўважлівым назіральнікам грамадскіх працэсаў і надзвычай цікавым суразмоўцам.

**— Размовы з Сакратам Яновічам паўплывалі на тое, што ты стаў пісаць і друкавацца?**

Сустрэча з лідарамі Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» і беларускай эміграцыі. Белавежа 1990 г.



— Спачатку я стаў „сацыёлагам" (*смех*). Прафесар Ежы Тамашэўскі ў 1983 годзе запрасіў мяне да ўдзелу ў падрыхтоўцы агульнапольскага рапарта „Kultura polityczna polskiego społeczeństwa". Думаю, што адбылося гэта не без падказкі Сакрата Яновіча. Я павінен быў апісаць праваслаўную грамадскасць Беласточчыны. Але як за гэта ўзяцца, калі я не ведаў нічога. Сацыялагічных прац не было. Я шукаў інфармацыю ў „Ніве". Спачатку мне нават чытаць было цяжка, бо я ніколі не вучыўся беларускай мове ў школе. Праўда, даволі хутка ўцягнуўся, але патрэбнай мне інфармацыі там не знайшоў. Роспач. Адзінае выйсце, якое прыйшло мне ў галаву, то ездзіць па Беласточчыне і размаўляць з людзьмі. Вырашыў зрабіць анкету. Але тут адразу з'явілася ўскладненне. Калі мае суразмоўцы бачылі не толькі магнітафон, але звычайную картку паперы і асадку, мяняліся, пачыналі гаварыць інакш, ненатуральна, як быццам ігралі зададзеныя ролі. Паколькі я тыя пытанні з анкеты ведаў на памяць, я размаўляў з людзьмі без папераў, а толькі потым з памяці спісваў іх адказы. Атрымалася мне, што 28% праваслаўных жыхароў Беласточчыны адчуваюць сябе беларусамі, 30-34% — рускімі, амаль 30% — палякамі (у тым 7% толькі палякамі, без дадатковага вызначэння „паляк праваслаўны") і жменька — тутэйшымі. Вынікі гэтых даследаў апублікаваў я ў часопісе „Zeszyty Wydziału Dziennikarstwa i Nauk Politycznych Uniwersytetu Warszawskiego"[2].

**— Гэтае пытанне даследаваў таксама прафесар Андрэй Садоўскі[3].**

— Прафесар Садоўскі рабіў гэта дзесяць гадоў пазней. Прафесіянальна, выкарыстоўваючы навуковы апарат, універсітэцкую структуру, ангажаваў у збіранне даследчыцкага матэрыялу студэнтаў. І ведаеш што? Атрымалася больш-менш тое, што ў мяне. З адной істотнай розніцай. Прапалі рускія. Куды яны дзеліся? Перайшлі ў катэгорыю „палякі".

**— Чаму так сталася?**

— Свет памяняўся. Узнікла незалежная Беларусь. Раптам аказалася, што Расія дзесьці далёка і быць рускім у Польшчы — неяк няёмка. Беларуская свядомасць была слабая, новаспечаная за мяжой дзяржава таксама была чымсьці невядомым, а людзі патрабуюць арыентавацца на нешта саліднае, дык і выказаліся за польскую тоеснасць.

**— Ты тады быў таксама ў кругу заснаванага Сакратам Яновічам Беларускага незалежнага выдавецтва.**

— Круг быў невялікі: Сакрат, Туронак і мой брат Антон. Беларускае незалежнае выдавецтва ўзнікла ў пачатку 1980-х гадоў, выдала чатыры нумары „Беларускіх дакументаў" і ў 1983 годзе спыніла сваю дзейнасць. Аднак мы адчувалі патрэбу вучыцца і дзяліцца нашымі ведамі, якія набывалі хаця б дзякуючы падпольнаму ці эміграцыйнаму друку, адчувалі патрэбу дыскусіі, абмену думкамі. У выніку, у 1988 годзе заснавалі згаданы „Кантакт". Пастанавілі пісаць так, каб беларускія справы ўвайшлі ў грамадскі дыскурс. Часопіс трапіў у Беларусь і да беларускай эміграцыі, якая нават фінансава падтрымала выданне. Перадалі дзесяць асобнікаў першага нумара асяроддзю польскай інтэлігенцыі і атрымалі, на наша вялікае здзіўленне, шмат водгукаў.

**— І так вяртаемся да сітуацыі перад выбарамі 1989 года, да Беларускага клуба.**

— Рэдакцыю „Кантакту" складалі чатыры асобы — Туронак, Яновіч і мы з братам — і павінна яна была заставацца ананімнай. Беларускі клуб затое меўся стаць такім

[2] *Świadomość narodowa prawosławnych mieszkańców Białostocczyzny*, „Zeszyty Naukowe Instytutu Nauk Politycznych Uniwersytetu Warszawskiego", 1992, nr 17.

[3] A. Sadowski, *Pogranicze polsko-białoruskie. Tożsamość mieszkańców*, Trans Humana, Białystok 1995

дыскусійным форумам, да якога мы рашылі прыцягнуць маладзейшых, у асноўным студэнтаў. Можа не адразу з раўнапраўным голасам, але дзеля навукі. Памятаеш тыя сустрэчы ў беластоцкай кватэры Сакрата, у Туронка на дачы ў Трыпуцях ці ў Латышонкаў у Супраслі і абмеркаванні гістарычных пытанняў? Нас цікавіла перш-наперш навейшая гісторыя: ІІ Рэч Паспалітая, БССР, разгром беларускага руху і часовыя паралелі пэўных працэсаў у дзвюх здавалася б варожых дзяржавах, Другая сусветная вайна. Мы задумваліся, што можам зрабіць на Беласточчыне і шырэй — з Беласточчыны для Беларусі. Хаця Беларускі клуб дзейнічаў больш адкрыта ў параўнанні з рэдакцыяй „Кантакту" і ў пашыраным складзе, то ўсё ж такі вырашылі мы не даваць да публічнага ведама прозвішчы яго ўдзельнікаў. Ніхто ж не спадзяваўся, што ўжо неўзабаве закончыць сваё існаванне Польская Народная Рэспубліка.

— **А тым часам нью-йоркскі „Беларус" апублікаваў поўны спісак сяброў клуба. Атрымаў яго ад Сакрата Яновіча. Ці гэта была прычына канца тае ініцыятывы?**

— Выбухнула авантура. Найбольшыя прэтэнзіі меў старшыня клуба Юры Туронак, які лічыў рассакрэчанне прозвішчаў заўчасным. Але не думаю, што Беларускі клуб перастаў спатыкацца з-за гэтай публікацыі. Проста, як я ўжо казаў, падзеі набылі такі тэмп, што мы не маглі над імі запанаваць.

— **Як табе запамяталіся выбары 4 чэрвеня 1989 года.**

— Я саміх выбараў не бачыў, бо быў тады якраз у Лондане. Але памятаю вялікі энтузіязм перад выбарамі. Так на сустрэчах з выбаршчыкамі, як і сярод тых, хто далучыўся да працы нашага штаба, а былі гэта перш за ўсё маладыя людзі, студэнты. Памятаю, што перад маім вылетам у Англію ўся Беласточчына была абклеена Сакратавымі і маімі фатаграфіямі і бел-чырвона-белымі плакатамі з лозунгам: „Беларусы, пра нашы справы будзем гаварыць самі". Вельмі нядобрым з палітычнага меркавання.

— **Чаму? Мы ўсе гэтым лозунгам ганарыліся і выступалі пад ім яшчэ на некалькіх наступных выбарах. Хто яго, дарэчы, прыдумаў?**

З Вячкам Станкевічам – кіраўніком беларускай службы Радыё Свабода ў рэдакцыі «Нівы», 1996 г.





Візіт у «Ніву» Зянона Пазняка – старшыні БНФ «Адраджэнне», 1995 г..

— Здаецца Віктар Стахвіюк. Чаму кепскі? Таму, што выключае іншых. А ў палітыцы ідзе пра тое, каб прыцягваць да сябе.

**— Мне тое самае казала Аляксандра Бергман: „То што, я як яўрэйка не магу выказвацца ў беларускіх справах?" Я яе тады не разумеў, бо ж не такі сэнс мы ўкладалі ў гэты лозунг. Мы толькі хацелі заявіць, што ніхто за нас не будзе вырашаць наш лёс.**

— Фармулёўка, аднак, была не трапная. Выглядала на тое, што мы ідзем на авантуру. А авантурыстаў ніхто ў нас не любіць. Не на тое нашы людзі ўсё жыццё стараюцца не вылучацца, інтэгравацца ў польскае грамадства, каб тут хтосьці вонкі выцягваў іх беларускія карані. Некаторыя гаварылі: „яшчэ стануць заставляць у Беластоку вучыць нашых дзяцей беларускай мове"! Усё жыццё жылі ў канспірацыі, а тут раптам у неспакойны час прызываюць прадэманстраваць беларускасць.

**— Нягледзячы на гэта, за Цябе прагаласавала 14,5 тысяч чалавек, а за Сакрата Яновіча — 22,5 тысячы. Ва ўмовах вострай канкурэнцыі.**

— Сітуацыя была такая, што за круглым сталом камуністычная ўлада дамовілася з апазіцыяй, якая выступала пад шыльдам Грамадзянскага камітэта Салідарнасці, на часткова свабодныя выбары. Большасць, 65% месцаў у Сойме возьмуць людзі з рэкамендацыі кіроўнай партыі, а за астатнія пазмагаюцца ўсе ахвочыя. Беларускі выбарчы камітэт якраз змагаўся за галасы ў межах тых 35 працэнтаў. Прадстаўнікі Салідарнасці, як я ўжо казаў, не мелі чаго шукаць сярод праваслаўных. Але ахвочых падзяліцца галасамі гэтага электарату хапала. Ваяводскі камітэт партыі даў сваю падтрымку „незалежнаму" кандыдату Міраславу Суроўцу, Праваслаўны выбарчы камітэт выставіў са свайго спіска ўкраінскага дзеяча з Варшавы Багдана Мартынюка. А была ж яшчэ на ўрадавым спіску Хрысціянска-грамадская унія, якую таксама падтрымлівала Праваслаўная царква і з якой паслом стаў Яўген Чыквін[4].

[4] Яўген Чыквін — праваслаўны дзеяч, галоўны рэдактар месячніка „Tygodnik Podlaski" (1985-91), перайменаванага ў „Przegląd Prawosławny". Дэпутат польскага Сойма ў 1985-93, 2001-15 гадах.

**— Чаму не ўдалося стварыць супольны выбарчы камітэт разам з Царквою? Перамовы ж былі.**

— Завялікія былі разыходжанні. Нашай асноўнай мэтай было захаванне беларускасці на Беласточчыне. У царкоўных кругах гэта здавалася нечым вельмі радыкальным. Яны размывалі нацыянальнае пытанне, казалі, ёсць жа праваслаўныя ўкраінцы, лэмкі, грэкі... Заснавалі сваю арганізацыю — брацтва, — якой нацыянальныя справы не былі найважнейшыя. Неўзабаве праваслаўнае брацтва прывезла з Варшавы свайго кандыдата Багдана Мартынюка, нацыянальнасць якога на выбарах не экспанавалася. Тым не менш, у той час мясцовая польская прэса вельмі многа піша пра адраджэнне ўкраінскасці на Падляшшы. З другога боку з'яўляюцца ініцыятывы за ўвядзенне польскай мовы ў багаслужбах, у жыцці Царквы. Мы гэта ўспрымалі як шматвектарныя дзеянні з мэтай размывання беларускай праблематыкі.

**— У пэўны момант з'яўляецца такое ўражанне, што Твая асоба становіцца непрымальнай для праваслаўнага асяроддзя. Дзіўна, бо ж Ты чалавек веруючы, без камуністычнага мінулага і да таго ж яшчэ плённы публіцыст прыцаркоўнага часопіса „Tygodnik Podlaski".**

— Мне нават галоўны рэдактар таго выдання Яўген Чыквін прапанаваў старт на выбарах разам з ім са спіска



НАШЫ КАНДЫДАТЫ

САКРАТ ЯНОВІЧ

беларускі пісьменнік, сын Беласточчыны, нарадзіўся ў праваслаўнай сялянскай сям'і ў 1936 годзе ў Крынках.

Усё сваё жыццё прысвячае абароне беларускай мовы, культуры і рэлігіі.

Суарганізатар тыднёвіка "Ніва" і Беларускага таварыства ў Беластоку.

Выдадзена каля 20-ці яго кніжак: "Загоны", "Самасей", "Сцяна", "Беларусь, Беларусь..." і інш., у якіх змагаецца за лепшы наш лёс у маральным і эканамічным сэнсе.

Сакрат Яновіч за нашы ЗАГОНЫ будзе стаяць СЦЯНОЙ!

Выбірайма свайго сенатара!

ZAŁOŻENIA PROGRAMOWE

1. DĄŻYĆ DO ZLIKWIDOWANIA DYSPROPORCJI W ROZWOJU GOSPODARCZYM WSCHODNIEJ BIAŁOSTOCCZYZNY I RESZTY KRAJU.
2. DBAĆ O ZACHOWANIE EKOLOGICZNYCH WARTOŚCI REGIONU.
3. TROSZCZYĆ SIĘ O ZACHOWANIE OGÓLNOLUDZKICH WARTOŚCI MORALNYCH, GODNOŚCI CZŁOWIEKA I SZACUNKU DLA JEGO PRACY.
4. BRONIĆ INTERESÓW BIAŁORUSKIEJ MNIEJSZOŚCI NARODOWEJ, JEJ JĘZYKA, KULTURY I RELIGII.
5. DĄŻYĆ DO USTANOWIENIA POPRAWNYCH STOSUNKÓW MIĘDZY LUDNOŚCIĄ BIAŁORUSKĄ I POLSKĄ W DUCHU WZAJEMNEGO POSZANOWANIA WARTOŚCI KULTURALNYCH I RELIGIJNYCH.

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ

гісторык нашага народу, праваслаўны беларус.

Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Алексічах каля Заблудава, у гаспадарскай сям'і.

Публіцыст праваслаўнай газеты "Тыгоднік Падляскі", у якім піша аб праваслаўі, аб гісторыі нашай зямлі і народу.

Працуе настаўнікам сярэдняй школы.

Малады, энергічны і шчыра аддыны праваслаўю і беларускасці.

Кандыдат найбольш надзейны на мандат № 38 у Сейм з Бельскай акругі № 10.

Толькі ён нас не падвядзе!

WIK Białystok zam. 248 nakł. 1000 szt A-3 T-4




Хрысціянска-грамадскай уніі. Я адмовіўся не толькі таму, што ўжо даў згоду Беларускаму выбарчаму камітэту і мяняць слова проста не выпадала. Хаця шанцы стаць паслом былі безумоўна большыя, калі б я пагадзіўся на прапанову Чыквіна. Ну, але я падзякаваў і больш мне не прапанавалі (*смех*).

**— Калі я гартаў „Ніву" з 1989 года, моцна здзівіўся, бо ўбачыў як быццам паралельны свет, на які я зусім забыўся. Наша асяроддзе з галавою кінулася ў дзейнасць Беларускага выбарчага камітэта, а тым часам дзеячы Беларускага грамадска-культурнага таварыства жылі надзеяй, што Польская аб'яднаная рабочая партыя прытуліць іх да сэрца, што выставіць беларуса на сваім спіску.**

— Іх меркаванні не былі беспадстаўнымі. Беларусы ж у Польскай Народнай Рэспубліцы былі пасламі. Праўда, траплялі туды не як прадстаўнікі беларускай грамады, а камуністычнай партыі ці нейкага працоўнага калектыву. Не на тое, каб адстойваць там нацыянальныя інтарэсы. Але ж час памяняўся і вера ў дэмакратызацыю партыі была ў нечым апраўданай. Тым не менш, не спраўдзілася. Але я б перасцерагаў перад асуджэннем таго ці іншага выбару. Тады падзелы не былі такія вострыя. Частка людзей БГКТ прымала актыўны ўдзел у Беларускім выбарчым камітэце. Ды і ўсе нашы галоўныя сходы праходзілі ў іх памяшканні па вуліцы Варшаўскай. Непатрэбна і часта занадта востра абвінавачвалі мы іх у камунізме, якога па сутнасці ў Польшчы і не было. Праўда, яны ў сваю чаргу распускалі пра нас чуткі, што мы агенты Салідарнасці і Ватыкана (*смех*), а гэта ж не спрыяла пабудове нашай базы ў вёсках ці мястэчках усходняй Беласточчыны. Тым не менш, нашы сцежкі дзесьці сустракаліся, дзесьці перасякаліся, пакуль уладу ў Таварыстве не ўзяў Янка Сычэўскі[5] і не пайшоў на поўнае супрацоўніцтва з нашымі канкурэнтамі — Саюзам

[5] Янка Сычэўскі — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства (з 1992 г.), дэпутат Сойма (1997-2001 гг.) і Сойміка Падляшскага ваяводства (2002-2014 гг.) як прадстаўнік Саюза левых дэмакратаў.




Рэдакцыйная сходка. З правага боку Ганна Кандрацюк-Свярубская, 1993 г.

левых дэмакратаў. Нашы дарогі з БГКТ разыходзіліся таксама ў ацэнцы сітуацыі ў Беларусі. Мы сябравалі з Беларускім народным фронтам, які пасля 1994 года быў пазбаўлены рэжымам Аляксандра Лукашэнкі якога-небудзь палітычнага значэння. Сычэўскі паставіў усё на адну карту: падпарадкаванне посткамуністычнаму Саюзу левых дэмакратаў і сяброўства з уладамі Беларусі, з чаго, дарэчы, і меў свае дывідэнды. Мы не мелі саюзнікаў ні тут, ні ў Беларусі.

**— Здавалася, прынамсі на Беласточчыне, што нам такія саюзнікі непатрэбныя. Вынікі выбараў мы палічылі як нашу маральную перамогу і самі сябе аб'явілі трэцяй сілай у рэгіёне, пасля Салідарнасці і посткамуністаў.**

— Я спрабаваў пераконваць, што такая думка занадта аптымістычная, за што ўспрымалі мяне ледзь не як здрадніка. Юры Туронак перасцерагаў, каб не кідацца ў палітыку, бо не маем ніякіх шанцаў у канфрантацыі з агульнапольскімі партыямі. Не хапіла нам здаровай калькуляцыі, перамог энтузіязм і пастанавілі заснаваць палітычную партыю. У нечым быў гэта дух часу, бо ж усе навокал засноўвалі партыі, то чаму не мы? Спачатку нават сур'ёзна разглядалі назву: Грамада. Уяўляеш сабе парадокс: людзі ў сваёй большасці з антыкамуністычнымі поглядамі звяртаюцца да Беларускай сялянска-работніцкай грамады — арганізацыі, якая па сутнасці была прыхільнікам савецкага варыянта вырашэння беларускага пытання ў даваеннай Польшчы. Удалося ад назвы адмовіцца на карысць Беларускага дэмакратычнага аб'яднання[6]. Устаноўчы кангрэс партыі прайшоў у лютым 1990 года. Я напісаў статут, збольшага ліберальны, бо думаў, што ў сувязі з рэформай самакіравання, каму як каму, але прынамсі тым, хто ўзяў уладу ў гмінах будзе ён атракцыйны. Не быў.

[6] Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (1990-2004 гг.) — адзіная палітычная партыя нацыянальных меншасцей у пасляваеннай Польшчы. Старшыні: Сакрат Яновіч, Алег Латышонак, Пётр Крук, Яўген Янчук.



За сталом галоўнага рэдактара «Нівы».

**— Мы разам з Беларускім дэмакратычным аб’яднаннем ішлі ад аднае „маральнае перамогі” да другой, трэцяй… і ўрэшце рэшт прыйшлося распусціць партыю. Але я хачу яшчэ спытаць Цябе менавіта пра самакіраванне. У БДА з’явілася канцэпцыя аб’яднання гмін усходняй Беласточчыны, якая не атрымала ніякай падтрымкі. З’явілася зарана? Цяпер жа розных звышгмінных структур процьма.**

— Наша калькуляцыя была простая. Трэба развіваць моцна эканамічна запозненую ўсходнюю Беласточчыну. З маіх аналізаў эканамічнай палітыкі ПНР атрымалася, што ў 1970-1980 гадах інвестыцыі на абшарах, дзе пражываюць беларусы складалі толькі 15% усіх інвестыцый Беластоцкага ваяводства. Адсталасць было відаць простым вокам. Яснае было таксама, што не ліквідуе яе ўрад у Варшаве. У Беластоку ў той час развальваліся вялікія фабрыкі і прадпрыемствы. Мы лічылі, што жыхары Беластока будуць вяртацца ў свае вёскі і мястэчкі і там ім трэба стварыць перспектывы, наладзіць нейкую вытворчасць, паслугі. Умоўна кажучы, лепш прадаваць гатовую каўбасу, чымсьці жывыя свінні ці мэблю, а не зрэзанае дрэва, а дзеля таго, каб наладзіць перапрацоўку сыравіны, трэба фінансавыя сродкі. Лягчэй здабыць іх большым структурам. Таму і прапанавалі Саюз гмін Усходняй Беласточчыны.

**— Нацыянальнага пытання не ставілі?**

— Не на першым месцы. Мы лічылі, што спачатку людзі павінны жыць у дастатку, а разам з гэтым з’явіцца і нацыянальны гонар, гміны стануць дбаць пра навучанне беларускай мове, захаванне культуры. Ездзілі мы па гмінах, пераконвалі да нашай канцэпцыі і… атрымалі падтрымку аднаго войта Нарваўскай гміны Яна Тапалянскага. Астатнія пыталі нас, ці мы маем дазвол на заснаванне такога саюза, хто нас прыслаў? Людзям, якія цэлае жыццё выконвалі чыесьці распараджэнні, у галаву не прыходзіла, што можна зрабіць нешта самастойна, без дазволу зверху. О, каб мы прыехалі з кімсьці з Варшавы, міністрам ці хаця б паслом або сенатарам, было б па-іншаму. А так мы для іх



На Кафедры беларусай культуры Універсітэта ў Беластоку з праф. праф. Альжбетай Смулковай і Ежы Тамашэўскім. Прамоцыя кніжкі праф. Я. Мірановіча «Historia państw świata XX wieku. Białoruś», 1999 г.

былі нікім, за намі не стаяў ніякі аўтарытэт. Войты не ведалі, што пра нас думаць. Зноў з'явіліся абвінавачанні ў наш бок, што, маўляў, хочам далучыць Беласточчыну да СССР, хаця таго СССР ужо некалькі гадоў не было (*смех*).

**— Можа спрычыніліся да гэтага сустрэчы з беларускай апазіцыяй у Белавежы?**

— Мы сарганізавалі дзве такія сустрэчы, у 1989 і 1990 гадах. Не толькі з беларускай апазіцыяй, якая на той час гуртавалася вакол Зянона Пазняка і Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", але і з эміграцыяй. Здавалася нам, што Беласточчына, гэта найлепшае месца на тое, каб спаткаліся два аддзеленыя ад сябе дзесяцігоддзямі палітычнай канфрантацыі беларускія светы. А мы можам быць пасрэднікамі. Як і ў кантактах маладых беларускіх дэмакратаў з польскімі калегамі. Хутка, аднак, Беларусь адчыніла дзверы эмігрантам і пасрэднікі не былі патрэбныя. Таксама як у кантактах Мінска з Варшавай.

**— Аказваецца, мелі мы свае пяць хвілін у палітыцы, пасля якіх усё вярнулася на сваё месца.**

— Калі маеш на ўвазе тое, што Беласточчына — правінцыя, перыферыі вялікай палітыкі, то так. Але пасля 1989 года месца ўжо не было тое самае. І мы таксама памяняліся.

**— Што нам далі тыя выбары і ўсе падзеі вакол іх?**

— Гэта быў пачатак грамадзянскай актыўнасці можа не столькі майго, але стапрацэнтна твайго пакалення. Усе беларускія структуры, якія дзейнічаюць да сёння, узнікалі тады. Кузняй пазнейшых дзеячаў было Беларускае аб'яднанне студэнтаў, зарэгістраванае восенню 1988 года, напярэдадні змен. І арганізацыі журналістаў, і гісторыкаў, і навучанне беларускай мове ў Беластоку, і „Басовішча". Ды і ў мясцовай палітыцы без лакальных беларускіх выбарчых камітэтаў не абыходзілася, у выніку яны ўводзілі сваіх дэпутатаў у гмінныя ці гарадскія рады, мелі мы сваіх войтаў і бургамістраў.

Наша грамадска-палітычная актыўнасць працягвалася да працэсу „Нівы", які можна лічыць сімвалічным канцом таго рамантычнага перыяду[7]. Здаецца мне, што дзякуючы нашай актыўнасці ў той гістарычны момант — не маю, праўда, на гэта навуковых доказаў — быў стрыманы працэс асіміляцыі. Можа не нашмат, але ўсё-такі. Глянь, што праз дзесяць гадоў ад маіх даследаванняў нацыянальнай свядомасці праваслаўных на Беласточчыне, у даследаваннях прафесара Садоўскага зніклі рускія, якія сваю тоеснасць вызначалі толькі ад „рускай веры". А было іх пад 30%. Больш-менш столькі дэкларавала, што лічаць сябе беларусамі і яны засталіся імі. Гэта пацвярджаюць вынікі перапісаў насельніцтва.

Размаўляў **Мікола ВАЎРАНЮК**

**Выбраныя публікацыі прафесара Яўгена МІРАНОВІЧА:**

- *Białorusini w Polsce 1944-1949*, Warszawa 1993.
- *Historia państw XX wieku. Białoruś*, Warszawa 1997, wyd. II — 2007.
- *Polityka narodowościowa PRL*, Białystok 2000.
- *Historia Białorusi od połowy XVIII do XX w.* (współautor Oleg Łatyszonek), Białystok 2002, wyd. II — 2010.
- *Найноўшая гісторыя Беларусі*, Санкт-Пецярбург 2003.
- *Zmiana struktury narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX w.*, Białystok 2005.
- *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007.
- *Беларусы ў Польшчы (1918-1949)*, Вільня — Беласток 2010.
- *Polityka zagraniczna Białorusi 1990-2010*, Białystok 2011.
- *Polityka zagraniczna Ukrainy 1990-2010*, Białystok 2012.
- *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941-1944*, Kraków 2015.

[7] Выдаўца газеты — Праграмную раду тыднёвіка „Ніва" — пракуратура ў 2003 годзе абвінаваціла ў бухгалтарскіх ашуканствах. Сябры рады трапілі пад суд. Справа падрабязна асвятлялася ў польскіх СМІ, спадарожнічала ёй бурная дыскусія ў інтэрнэце. Суд у 2006 годзе прызнаў усіх фігурантаў справы невінаватымі.

# Białoruski
## drugi obieg w Polsce



Wiesław CHORUŻY

Pojawienie się białoruskiego druku, niezależnego od nadzoru struktur podporządkowanych Ministerstwu Spraw Wewnętrznych PRL, było zjawiskiem unikatowym wśród mniejszości narodowych w powojennej Polsce. Tylko Białorusini zdołali wydać ponad 50 tytułów różnych periodyków, broszur, śpiewników, kart okolicznościowych o łącznym nakładzie ponad 20 tysięcy egzemplarzy. Ogromne trudności tkwiły nie tylko w znalezieniu autorów, ale przede wszystkim w znalezieniu deficytowego papieru, wykonaniu druku i rozpowszechnieniu. Białorusini w odróżnieniu od polskiego drugiego obiegu nie posiadali tajnych drukarni, a tym bardziej finansów, umożliwiających w miarę stabilną działalność. Musieli pokonać jeszcze więcej przeszkód w porównaniu z polską opozycją.

Samodzielny ruch wydawniczy pojawił się wraz z ożywieniem życia społecznego i politycznego w Polsce po sierpniu 1980 roku. Część białoruskiej inteligencji podjęła próbę stworzenia warunków do rozwoju oświaty i kultury, zepchniętej w latach 70. do poziomu folkloru. Celem ruchu wydawniczego było informowanie, kształtowanie białoruskiej myśli społeczno-politycznej, prezentacja własnego dorobku kulturalnego. We wrześniu 1980 roku na Białostocczyźnie powołano Biełaruskaje Niezależnaje Vydaviectva. Dało ono początek niezależnemu białoruskiemu ruchowi wydawniczemu działającemu do połowy 1990 roku, kiedy to uległ likwidacji Urząd Kontroli Publikacji i Widowisk. Urząd ten kontrolował wszystkie wydawnictwa, także w języku białoruskim. Był to tygodnik „Niva", wydawane corocznie „Kalendarze Białoruskie", literatura piękna. Z własnego doświadczenia wiem, że kontakty z tą instytucją wymagały wielkich starań i cierpliwości. W końcu lat 80. redagowałem i wydałem w sposób legalny w nakładzie 3 tysięcy egzemplarzy kilkudziesięciostronicowy śpiewnik „Беларусь мая". Aby uzyskać zgodę na publikację, należało między innymi przetłumaczyć na język polski wszystkie piosenki! Może to obecnie wywołać zdziwienie, ponieważ tej instytucji chodziło nie tylko o nadzór nad publikacjami, ale o zniechęcenie do wszelkich działań i inicjatyw. Nadzorem, czy bardziej śledzeniem i kontrolowaniem zajmowała się niesławna Służba Bezpieczeństwa — tajna policja polityczna.

Oprócz wspomnianego BNV działającego przez cały okres lat 80. w końcu tej dekady powstało wydawnictwo „Кантакт" oraz pojawiły się głównie studenckie inicjatywy wydawnicze. Grono założycieli BNV było kilkuosobowe. W skład BNV weszli inteligenci dobrze znający historię i kulturę białoruską. Wzorowali się oni na ruchu odrodzeniowym z początku XX wieku. Początkowo wydawnictwo zajęło się dokumentowaniem i informowaniem, pomijając publicystykę. Wszystkie publikacje tego wydawnictwa były pisane białoruską łacinką. Podyktowane to było między innymi tym, że liczba cyrylickich maszyn do pisania była mocno ograniczona i tym samym łatwiejsza do wykrycia. Każdą

maszynę do pisania łatwo było zidentyfikować po charakterystycznym wyglądzie czcionki, a nawet sile uderzenia. W końcu czerwca 1981 r. ukazał się pierwszy numer periodyku „Biełaruskija dakumenty". Liczył on 20 stron formatu A 4. We wstępie redakcja określiła cel publikacji, jakim było dostarczanie obiektywnej informacji oraz prezentacja przejawów białoruskiej aktywności. Publikacja ukazała się w nakładzie 270 egzemplarzy. Była to jedyna publikacja BNV wydana przed ogłoszeniem stanu wojennego w Polsce 13 grudnia 1981 roku. Następne publikacje tego wydawnictwa, mimo że miały podany rok wydania 1981 r., w rzeczywistości ukazały się po wprowadzeniu stanu wojennego. Największa aktywność wydawnictwa przypadła na pierwszą połowę lat 80. W 1982 r. ukazał się anonimowy poemat białoruski „Skaz pra Łysuju Haru", „Universalnaja deklaracyja Pravoŭ Čaławieka". W lipcu 1982 r. ukazał się liczący 36 stron drugi numer „Biełaruskich dakumentaŭ". Część nakładu, 60 egzemplarzy, w sierpniu 1982 r. zostało skonfiskowanych u Jarosława Janowicza w Łodzi.




Najważniejszymi publikacjami BNV były broszury autorstwa Sokrata Janowicza „Pravasłaŭnaja Carkva ŭ Biełastockim Krai i biełaruskaja mova ŭ joj" i „Dumki pra aŭtanomiju". Wydano je w 1982 roku. Prezentowały one i zarazem kształtowały białoruską myśl społeczno-polityczną tego okresu, wywarły duży wpływ na poglądy i postawę kształtującej się młodej inteligencji białoruskiej w Polsce. Pomimo upływu niemal czterdziestu lat myśli tam zawarte nie straciły na znaczeniu, a znaczna część przewidywań autora niestety się sprawdza.

W połowie 1983 r. po rocznej przerwie ukazał się liczący 30 stron formatu A4 trzeci numer periodyku „Biełaruskija dokumenty". Został on poświęcony jednej inicjatywie — niezarejestrowanemu przez ówczesne władze Stowarzyszeniu Opieki nad Zabytkami i Rozwojem Białoruskiej Kultury Materialnej w Polsce. Natomiast w sierpniu 1983 r. ukazał się ostatni, czwarty numer tego periodyku. Był on najobszerniejszy, liczył bowiem 72 strony. Znalazła się w nim bieżąca dokumentacja aktywności białoruskiej. Publikacja ta zamknęła na cztery lata działalność BNV, którą wznowiono w 1987 roku. W ciągu tak krótkiego czasu wydano 8 pozycji, w tym siedem w czasie stanu wojennego (13.12.1981–22.07.1983). Działalność wydawnictwa została wstrzymana z powodu trudności poligraficznych i represji władz (m.in. przeprowadzano rewizje w mieszkaniu Sokrata Janowicza w Białymstoku). Do 1985 r. w formie maszynopisów rozpowszechniano anonimowe utwory wierszowane „Znajut lude", „Zaliszany", „Pro szto dumaje diad'ko". Ten ostatni trafnie opisywał realia życia wiejskiej ludności białoruskiej Białostocczyzny, krytykując słabe przywiązania do ziemi ojcowskiej, kultury ojczystej, przyejmowanie postaw od kultury polskiej.

W 1987 r. BNV wznowiło działalność. W tymże roku wydano zbiorek nigdzie niepublikowanych wierszy Łarysy Hienijusz „Dzieviać vierszaŭ" i esej publicystyczny „Piśmo da siabry". Druga publikacja była autorstwa Sokrata Janowicza i była analizą sytuacji społeczno-politycznej białoruskiej mniejszości narodowej w Polsce w drugiej połowie lat osiemdziesiątych i nawiązywała do wcześniejszych publikacji BNV z początku lat osiemdziesiątych.

Najobszerniejszą publikacją BNV po wznowieniu działalności był „Archiŭny sszytak", będący bezpośrednią kontynuacją „Biełaruskich dakumentaŭ". Pojawił się on w połowie lutego 1988 r. i zawierał aż 160 stron. Znalazły się w nim zamieszczone w porządku chronologicznym w większości nigdzie niepublikowane deklaracje, wystąpienia, dokumenty urzędowe, artykuły publicystyczne od połowy 1983 r. do końca 1987 roku. Doskonale obrazują one aktywność Białorusinów w Polsce. Publikacja ta jest bardzo ważną pozycją obrazującą myśl białoruską tego okresu oraz posiada bezcenne walory dokumentalne. W owym czasie odgrywała ona istotną rolę kształcącą, poznawczą i opiniotwórczą, szczególnie wśród młodego pokolenia. „Archiŭny sszytak" ukazał się w nakładzie ok. 300 egzemplarzy i był później powielany w formie fotograficznej, przechodził z rąk do rąk. Była to ostatnia publikacja Biełaruskaha Niezależnaha Vydaviectwa. W ciągu siedmiu lat działalności BNV wydało jedenaście publikacji, w tym pięć o charakterze dokumentacyjnym, trzy publicystycznym, dwa zbiorki wierszy i jedną zawierającą akt prawny. Łączny nakład wszystkich publikacji wyniósł około 2 tys. egzemplarzy. Znaczenie wydawnictwa jest o wiele większe, niż mogłoby to wynikać z ilości tytułów i nakładów. Jest ono dowodem żywotności białoruskiej myśli społeczno-politycznej lat osiemdziesiątych.

Poza nadzorem cenzury działalność wydawniczą prowadziło środowisko studenckie. W większości publikowano zbiorki piosenek, wierszy, wydawano karty okolicznościowe i materiały informacyjne. Do końca 1981 r. niezarejestrowane Biełaruskaje Abjadnańnie Studentaŭ wydało dwa numery biuletynu o charakterze informacyjnym „Apošnija paviedamleńni". Trzeci numer z przyczyny wprowadzenie stanu wojennego w końcu 1981 r. został skonfiskowany. W 1983 r. studenci poza nadzorem cenzury wydali zbiór piosenek „Спеўнік беларускага студэнта". Ze względu na bezpieczeństwo wydawców podano rok druku 1981. Studenci łącznie wydali co najmniej trzy śpiewniki, ostatni na początku 1990 roku. Największa aktywność publikacji bezdebitowych w środowisku studenckim przypadła na lata 1988-1989. W tym okresie wydano najwięcej druków okolicznościowych: odezw, deklaracji, pocztówek. Wynikało to z ogólnego






ożywienia studenckiego, w tym studentów pochodzenia białoruskiego oraz znacznie łatwiejszego dostępu do bazy poligraficznej w porównaniu z początkiem lat osiemdziesiątych. W 1989 r. wydano trzy numery biuletynu „Apošnija paviedamleńni BAS". Ostatnią bezdebitową publikacją Biełaruskaha Abjadnańnia Studentaú było drugie wydanie śpiewnika „Гарыць вогнішча", nadrukowane w nakładzie 1200 egzemplarzy w styczniu 1990 roku.

Niezależny ruch wydawniczy narodził się również w środowisku młodzieży szkolnej. W czerwcu 1989 r.w Bielsku Podlaskim wydano zbiorek piosenek „Чараўніца" oraz pierwsze wydanie wspomnianego śpiewnika „Гарыць вогнішча".

W 1988 r. studenci zorganizowali wydawnictwo „Бераг". Opublikowało ono obszerny zbiór wierszy współczesnego poety białoruskiego Aleha Bembela „Саната ростані" oraz klasyka Janki Kupały „Маладзі". W tym samym roku pojawiły się dwie publikacje o charakterze historycznym autorstwa Aúhiena Kałubowicza „Акт 25-га Сакавіка й Адраджэньне Нацыянальнай Беларускай Культуры" i „Айцы БССР i іхны лёс". Były to bardzo cenne pozycje ze względu na aspekty edukacyjne, przybliżały bowiem nieznaną historię białoruskiego ruchu niepodległościowego z początku XX wieku. Były one kolportowane nie tylko w Polsce, ale także w BSSR (odegrały tam dużą rolę edukacyjną). Istotną publikacją wydaną w marcu 1988 roku było opracowanie o charakterze naukowym autorstwa Jarosława Janowicza w języku polskim „Zmiany białoruskich nazw miejscowych Białostocczyzny w dwudziestowiecznej polskiej konwencji ich zapisu". Obrazowała ona politykę polskich władz, zmierzającą do zmiany oblicza kulturowego Białostocczyzny poprzez zatarcie białoruskiej wielowiekowej obecności na tych ziemiach. Jednym z aspektów tej obecności było białoruskie nazewnictwo miejscowości i obiektów geograficznych. Publikacja została wydana staraniem autora w nakładzie 200 egzemplarzy.

W końcu lat osiemdziesiątych pojawiły się dwa periodyki białoruskie: społeczno-polityczny „Кантакт" i religijny „Фос". Pismo „Фос" było pierwszym periodykiem





У часопіс "МАЛАДОСЬЦЬ".

Паважаныя таварышы!

Хачу на старонках Вашага часопісу падзяліцца вершаванымі развагамі наконт таго, што за з'ява хаваецца пад подпісам: Нина Андреева /гл.: "Советская Россия", 13.03.88 г./. І — пра шляхі грамадзянскага і духоўнага вызваленьня ад злавесных ценяў бюракратычнага прыгоннага права. Гэта неабходна, маючы на ўвазе энтузіязм бюракратыі Мінска, зь якім яна сустрэла "феномен Андрэевай". Трэба выцягваць на сьвет Божы "сапраўдных рэжысёраў антыперабудовы" /гл.: "ЛіМ", 3.06.88 г., с. 5; "СОВЕТСКАЯ КУЛЬТУРА", 11.06.88 г., с. 7/.

+

КУЛЬТуролагі.

Рагочуць хлопцы: "Тэ-гэ-гэ!.." —  
/зь вядомай фірмы — МГТ*/, —  
як кажаш ім, што цень трыццатых  
больш не пакрые нашы хаты ...

Як Керанскі у свой час — спадніцай, —  
яны прыкрыліся ... хіміцай ...  
і кажуць нам, што наступіцца  
ім прынцыпамі МГТ  
ніяк, ніколі немагчыма:  
разбурыцца бязь іх ... Айчына!..  
... прыкрыла іх спадніцай  
Ніна ...  
І сьмех, і грэх ...  
і... г... г... г...

* МГТ — мафіёзна-бюракратычная нефармальная кааператыўная фірма: "Мясцовыя гуманітарныя гарылы /альбо — ... грамілы; альбо — ... га лаварэзы/". /Цэнтральная прэса ўжо вольная, а вось мясцовая, у тым ліку, часам, і рэспубліканская, сям-там, яшчэ прыціснутая хлопцамі з МГТ./

+

СТАГНАЦЫЯ

стогн расьціснутай ботам душы ...  
стогн аскопленай кляпам культуры ...  
" — Можна, браце-кастраце, — грашы-ы-ы !!!..."  
... і... кахальнага рэха ...  
хаўтуры ...

+

БЮРБУЛЬ

У крэсьле ідэялагічным  
/у плане творчым — круглы нуль/  
сядзіць бульдог бюракратычны  
/калі скарочана — бюрбуль/.

Прыплюснуў вочкі тлустыя карак:  
глядзіць заўсёды — быццам сьпіць  
/відаць, не абмінае скварак,  
як ёсьць патрэба ... закусіць/.

З трыбуны мовіць — быццам лашчыць  
ён кандыдатку ў м.н.с. ...  
ды ад яго драпежнай пашчы  
ты аніяк не уцячэш!

Сам не кусае. І ня брэша.  
"Шасьцёрак" толькі нацкуе,  
і ... пад лагоднаю усьмешкай

religijnym w języku białoruskim wydawanym w Polsce w okresie powojennym. Celem redaktorów było przybliżanie młodemu pokoleniu teologii prawosławnej oraz historii w języku białoruskim. Do połowy 1989 r. ukazało się 5 numerów. Z inicjatywy redaktorów pisma „Фос" przez kilka następnych lat odbywały się Rajdy Białoruskiej Młodzieży Prawosławnej.

Pojawienie się w styczniu 1989 roku periodyku „Кантакт" zasługuje na szczególne zainteresowanie. Pismo to stanowiło bowiem forum białoruskiej myśli politycznej, odpowiadającej na zapotrzebowanie sytuacji, stworzonej na gruncie przemian politycznych tego okresu. Wydawali je białoruscy intelektualiści z Polski. Była to pierwsza periodyczna publikacja w Polsce

**Апавядальнік:**
— Джапета бег за паяцам з усіх сіл, але як вы ўжо напэўна здагадаліся, неўзабаве згубіў яго з вачэй. Бураціна імчаўся ўсляпую па палях, каб як мага хутчэй... дабегчы дадому. Спрытна скакаў праз калючыя кусты, узгоркі і равы поўныя вады. Калі праблізіўся да хаты, заўважыў прыадчыненыя дзверы...

**Цвыркун:**
— Цыр, цыр, цыр!

**Бураціна:**
— Хто тут?

**Цвыркун:**
— Я.

**Бураціна:**
— Хто ты?

**Цвыркун:**
— Я — Гаварушчы Цвыркун і жыву ў гэтым пакоі звыш ста гадоў і...

**Бураціна:**
— Але цяпер гэта мой пакой. Забірай свае шмоткі і ідзі прэч адсюль! Ну, валі адсюль!

**Цвыркун:**
— Пакуль сыду, мушу цябе перасцерагчы.

**Бураціна:**
— Толькі хутка, шкада часу.

**Цвыркун:**
— Горкую долю выбіраюць дзеці, якія пагардліва адносяцца да слоў сваіх бацькоў і з-за сваёй дурноты пакідаюць родны дом. Ніколі не будуць шчаслівымі і заплацяць за свае ўчынкі высокую цану.

**Бураціна:**
— Будзь здароў Цвыркун. Заўтра ўранку іду ў свет. Калі тут застануся, мне трэба будзе, як і ўсім дзецям, хадзіць у школу і вучыцца. А гэтага мне зусім не хочацца. Мне больш падабаецца лавіць матылёў, лазіць па дрэвах і выбіраць птушак з гнёздаў.

**Цвыркун:**
— Бедны, дурненькі хлопчык! Ці ж ты не разумееш, што рабіўшы так, вырасцеш на поўнага асла і ўсе будуць з цябе смяяцца?

**Бураціна:**
— Годзе ўжо каркаць, дурны Цвыркун.

**Цвыркун:**
— Калі не хочаш вучыцца ў школе, вывучы нейкую прафесію, каб ты змог пракарміцца.

**Бураціна:**
— Хочаш ведаць, якая прафесія мяне цікавіць?

**Цвыркун:**
— Якая?

**Бураціна:**
— Хачу быць валацугай, есці, піць і гуляць увесь дзень.

**Цвыркун:**
— Трэба табе ведаць, што людзі гэтай прафесіі раней ці пазней трапляюць у шпіталь або турму.

**Бураціна:**
— Не выводзь мяне з раўнавагі, злопрадказальны Цвыркун, бо як разгневаюся, будзе табе гамон.

**Цвыркун:**
— Бядняга, мне цябе шкада.

**Бураціна:**
— А чаму ж?

**Цвыркун:**
— Бо ты паяц і ёлупень.

**Бураціна:**
— Што ты сказаў?

**Цвыркун:**
— У цябе пустая галава, ты ёлупень.

**Бураціна:**
— Дам я табе зараз ёлупня! А-а-а-а-а! Мая нага! Папомніш ты яшчэ мяне, дурны Цвыркун!

## СЦЭНА III

**Апавядальнік:**
— Бураціна з паломанай нагой не мог крануцца з месца. Таму ляжаў ажно сцямнела. Бураціна адчуў, што яму кішкі марш іграюць і ўспомніў, што нічога не еў. У паяцаў, як і ў хлопчыкаў хутка расце апетыт. Таму Бураціна вокамгненна адчуў голад, а затым ваўчыны голад, такі востры, што змог бы з'есці каня з капытамі.

**Бураціна:**

— Гаварушчы Цвыркун праўду гаварыў. Дрэнна, што я не слухаў бацьку і даў драла з хаты. Калі б бацька быў тут са мною, я не паміраў бы ад голаду. Няма большай пакуты чым голад! Хто тут?

**Джапета:**

— Я. Адчыні дзверы!

**Бураціна:**

— Не магу, татка.

**Джапета:**

— Чаму не можаш?

**Бураціна:**

— Бо нехта, бо нехта... адкусіў мне ступні.

**Джапета:**

— Хто?

**Бураціна:**

— Кот.

**Джапета:**

— Ніхто табе іх не адкусіў, ты іх паламаў. Што здарылася?

**Бураціна:**

— Не ведаю. Гэта быў самы горшы дзень у маім жыцці. Была страшэнная бура, а я паміраў ад голаду. І ў той момант... я пачуў голас Гаварушчага Цвыркуна: «Ты нарабіў бяды і вось табе, пакаранне». «Асцярожна, Цвыркун», — я яго перасцярог. Але ж ён працягваў: «Ты толькі паяц і ёлупень». А пасля... пасля... кінуў у мяне драўляным тронкам ад малатка і паламаў мне ногі. Цяпер ты, татка, вярнуўся, а ў мяне паломаныя ногі і бурчыць мне ўвесь час у жываце, і я галодны, і ўжо ніколі не будзе ў мяне ног!

**Джапета:**

— Гэта мая ежа, але я ахвотна яе табе аддам. На здароўе!

**Бураціна:**

— Добра мне цяпер. Татулік, а ты адрамантуеш мне ногі?

**Джапета:**

— А навошта ж мне стругаць табе новыя ступні? Хіба ж на тое, каб ты хутчэй даў драла з хаты?

**Бураціна:**

— Я клянуся, з сённяшняга дня я буду...

**Джапета:**

— Усе дзеці так абяцаюць, калі нешта просяць.

**Бураціна:**

— Але я не такі як іншыя дзеці. Я найлепшы і ніколі не маню.

**Апавядальнік:**



Фота Аляксандра ВАСЫЛЮКА

— Джапета крыху капрызіў, але ж глядзеўшы на жаласны выгляд паяцыка, у яго вачах закружыла слязінка, а сэрца тапілася быццам воск. Неадкладна знайшоў два кавалкі драўніны, дастаў свае прылады і ўзяўся за працу. Не прайшла і гадзіна, як новыя ступні былі гатовыя.

**Бураціна:**

— Каб выказаць сваю ўдзячнасць, я хачу неадкладна ісці ў школу! Але, каб ісці ў школу, мне яшчэ неабходны лемантар.

**Джапета:**

— Праўда, але як яго дастаць?

**Бураціна:**

— Папросту, лемантары прадаюць у кнігарні.

**Джапета:**

— Гэта так, але адкуль узяць грошы.

**Бураціна:**

— У мяне нат капейкі няма.

**Джапета:**

— І мае кішэні пустыя. Заўсёды знойдзецца нейкая развязка! Пачакай хвілінку. Прашу!

**Бураціна:**

— Дзе тваё паліто, татачка?

**Джапета:**

— Я яго прадаў.

**Бураціна:**

— Чаму?

**Джапета:**

— Я не люблю надта цёпла апранацца.

**Бураціна:**

— Дзякую, татачка!

## СЦЭНА IV

**Апавядальнік:**

— Раніцай Бураціна ўзяў свой новенькі лемантар і пайшоў у школу. Па дарозе планаваў сваю незвычайную будучыню.

**Бураціна:**

— Сёння навучуся чытаць, заўтра пісаць, а паслязаўтра лічыць. Дзякуючы сваім здольнасцям я зараблю процьму грошай і куплю майму бацьку прыгожае паліто з вярблюджай воўны. А мо з воўны гэта надта сціпла? Ведаю, я закажу яму паліто з золата і срэбра, упрыгожанае брыльянтавымі гузікамі. Бацюхна варты гэтага! Ахвяраваўся сабою, каб купіць мне лемантар... Што гэта за мелодыя? Шкада, што мне трэба ісці ў школу, бо калі б не гэта... а няхай сабе, сёння музыка, а заўтра пайду вучыцца. А што ж гэта за палатка?

**Дзяўчынка:**

— Уся інфармацыя на афішы, прачытай і будзеш ведаць!

**Бураціна:**

— Ахвотна зрабіў бы гэта, але якраз сёння не ўмею чытаць.

**Дзяўчынка:**

— Ах ты, ёлупень! Я табе прачытаю. На гэтым плакаце літары складаюцца ў надпіс: ВЯЛІКІ ТЭАТР МАРЫЯНЕТАК.

**Бураціна:**

— А колькі каштуе квіток?

**Прадавец:**

— Чатыры сольды. Хочаш купіць?

**Бураціна:**

— Ці дасі мне чатыры сольды за гэты новенькі лемантар?

**Прадавец:**

— Трымай!

**Арлекіна:**

— Ці гэта сон, ці не. Гэта ж Бураціна!

**Каламбіна:**

— Так, гэта ён!

**Расамунда:**

— Гэта насамрэч Бураціна!

**Усе:**

— Гэта Бураціна, гэта ён! Гэта наш брацік Бураціна! Брава, няхай жыве! Гэта Бураціна, гэта ён! Гэта наш брацік Бураціна! Брава, няхай жыве!

**Арлекіна:**

— Бураціна, хадзі да нас. Прывітайся са сваёй драўлянай сям'ёй.

**Нехта з гледачоў:**

— Паказвайце далей спектакль! Паказвайце далей спектакль!

**Дырэктар цырка:**

— Годзе ўжо гэтай мітусні ў маім тэатры.

**Бураціна:**

— Паверце, дабрадзей, я ў нічым не вінаваты.

**Дырэктар цырка:**

— Маўчаць, трымайце яго, каб не ўцёк! Ён з добра высушанай драўніны і калі кіну яго ў агонь, будзе з яго карысць.

**Бураціна:**

— Каханы татулік, дапамажы мне! Я не хачу паміраць!

**Дырэктар цырка:**

— Апчых!

**Арлекіна:**

— Усё будзе добра. Дырэктар чхнуў, відаць, ты абудзіў у ім міласэрнасць. Ты выратаваны.

**Дырэктар цырка:**

— Перастань раўці! Ад тваіх нараканняў бурчыць мне ў жываце і ў страўніку так ссе, што зараз... апчых, апчых!

**Бураціна:**

— Будзьце здаровы!

**Дырэктар цырка:**

— Ці твае бацькі яшчэ жывуць?

**Бураціна:**

— Татка здаровы, а маёй маці я ніколі не пазнаў.

**Дырэктар цырка:**

— Як цярпеў бы твой бацька, калі б я кінуў цябе ў агонь. Бедны старэнькі! Мне надта яго шкада! Апчых, апчых, апчых!

**Бураціна:**

— Будзьце здаровы.

**Дырэктар цырка:**

— Дзякую. Але гэта мяне трэба шкадаваць, няма ўжо ў мяне драўніны для ацяплення. Холадна мне і я чхаю. Не злуй на мяне, але ты надта спатрэбіўся б. Што ж, нічога. Я расчуліўся і пішы прапала. Замест цябе вазьму якую-небудзь сваю драўляную ляльку. Жандары! Злавіце тут жа гэтага Арлекіна, звяжыце шнуркамі і кіньце ў агонь.

**Бураціна:**

— Літасці прашу, спадар!

**Дырэктар цырка:**

— Няма тут ніякіх спадароў.

**Бураціна:**

— Літасці, ваша вяльможнасць...

**Дырэктар цырка:**

— Няма тут ніякіх вашых вяльможнасцяў!

**Бураціна:**

— Літасці, ваша свяцейшасць...

**Дырэктар цырка:**



Фота Аляксандра ВАСЫЛЮКА

— Свяцейшасць? Гм... Ну, чаго табе трэба?

**Бураціна:**

— Прашу літасці для беднага Арлекіна!

**Дырэктар цырка:**

— Ніякай літасці не будзе. Калі табе дараваў жыццё, ён пойдзе на распалку.

**Бураціна:**

— Калі так, я ведаю, што мне трэба зрабіць! Спадары жандары! Я ў вашым распараджэнні! Звяжыце мяне і няхай згару ў агні!

**Дырэктар цырка:**

— Ты добры хлопец. Хадзі да мяне, давай цябе абдыму.

**Арлекіна:**

— Ці я ўжо памілаваны?

**Дырэктар цырка:**

— Так, ты памілаваны. Як завуць твайго бацьку?

**Бураціна:**

— Джапета.

**Дырэктар цырка:**

— Якія ў яго заробкі?

**Бураціна:**

— Такія, што кішэні пустыя. Каб купіць мне лемантар, мусіў прадаць сваё адзінае паліто.

**Дырэктар цырка:**

— Бядняга! Расчуліла мяне яго доля. Вазьмі гэтых пяць залатых манет. Гэта мой падарунак твайму бацьку. Вяртайся дадому і перадай яму ад мяне словы пашаны.

**Бураціна:**

— Вялікі дзякуй, ваша свяцейшасць!

**Дырэктар цырка:**

— Свяцейшасць. Гм...

## СЦЭНА V

**Апавядальнік:**

— Бураціна пайшоў у дарогу дадому. Не прайшоўшы нават паўкіламетра, сустрэў Ліса, які накульгваў на адну нагу і сляпога Ката.

**Ліс:**

— Добры дзень, Бураціна.

**Бураціна:**

— Адкуль ты ведаеш як мяне завуць?

**Кот:**

— Я добра ведаю твайго бацьку.

**Бураціна:**

— Дзе ты яго сустрэў?

**Ліс:**

— На парозе вашай хаты.

**Бураціна:**

— Што ён там рабіў?

**Кот:**

— Стаяў у адной кашулі і дрыжэў ад холаду як асіна.

**Бураціна:**

— Бедны татка! З сённяшняга дня заўсёды будзе яму цёпла!

**Ліс:**

— А чаму?

**Бураціна:**

— Таму, што я стаў багаты.

**Кот:**

— Ты багаты?

**Бураціна:**

— Няма тут чаго смяяцца, гляньце на гэтых пяць залатых манет.

**Ліс:**

— Як ты думаеш імі карыстацца?

**Бураціна:**

— Галоўнае, я куплю татуліку прыгожы каптан, вышыты серабром і золатам, упрыгожаны гузікамі з брыльянтаў. А сабе куплю лемантар.

**Кот:**

— Лемантар?

**Бураціна:**

— Вядома, я збіраюся ў школу і мушу добра падрыхтавацца.

**Ліс:**

— Глянь на мяне! Згубная прага да навукі давяла мяне да страты нагі.

**Кот:**

— Глянь таксама на мяне! Згубная прага да навукі давяла мяне да слепаты.

**Цвыркун:**

— Бураціна, кінь слухаць парад гэтых гультаёў, а то пашкадуеш.

**Бураціна:**

— Гэта ты Цвыркун? Чаму ты быў такі

бязлітасны?

**Кот:**

— Так яму і трэба! Няхай не лезе ў чужыя справы.

**Ліс:**

— А ты не хочаш мець удвая больш грошай?

**Бураціна:**

— Вядома, але ж як?

**Кот:**

— А хочаш гэтых пяць нікчэмных манет памяняць на сто, тысячу, некалькі тысяч?

**Бураціна:**

— Кожны хацеў бы, але ж як гэта зрабіць?

**Цвыркун:**

— Бураціна, не слухай ты іх!

**Ліс:**

— Гэта па-дзіцячаму лёгка, мусіш толькі пайсці з намі.

**Бураціна:**

— А куды?

**Кот:**

— У Краіну дурняў.

**Цвыркун:**

— Не ідзі з імі!

**Бураціна:**

— Не пайду з вамі, я ўжо недалёка ад хаты і хачу туды дайсці. Чакае там мяне татка і напэўна перажывае, што я не вярнуўся дадому. Я, на жаль, не быў добрым дзіцём і Гаварушчы Цвыркун добра мне цяпер раіць. І ён меў рацыю, калі гаварыў, што «горкую долю выбіраюць дзеці, якія пагардліва адносяцца да слоў сваіх бацькоў».

**Ліс:**

— І ты ўпэўнены, што хочаш вярнуцца дадому?

**Кот:**

— А ідзі сабе, калі хочаш так многа страціць.

**Ліс:**

— Да заўтра замест сваіх пяці залатых манет ты мог бы мець іх дзве тысячы.

**Кот:**

— Роўненька дзве.

**Бураціна:**

— Але як гэта зрабіць?

**Ліс:**

— Трэба табе ведаць, што ў Краіне дурняў ёсць незвычайнае поле, завуць яго Поле цудаў. Выкапаеш на гэтым полі невялікую ямку і пакладзеш туды адну манету. Прысыплеш ямку зямлёй, пальеш вадой з калодзежа, крыху падсоліш і ляжаш спаць. За адну ноч манета пусціць парасткі і зацвіце. Раніцай прачынаешся, ідзеш на поле і што бачыш? Прыгожае дрэва, абвешанае манетамі.

**Бураціна:**

— А калі б я закапаў свае пяць манет, то колькі б іх сабраў наступнай раніцы?

**Кот:**

— Паколькі кожная манета замяніцца ў гронку, на якой пяцьсот манет, дык трэба пяцьсот памножыць на пяць. Адсюль вынікае, што заўтра раніцай у цябе будзе дзве тысячы пяцьсот манет, якія будуць блішчэць на сонцы і весела бразгатаць.

**Бураціна:**

— Ох, гэта класна! Як толькі збяру гэты бразгатлівы ўраджай, пакіну сабе дзве тысячы, а пяцьсот дарую вам.

**Ліс:**

— Хочаш зрабіць нам падарак! Крый Божа!

**Кот:**

— Крый Божа!

**Ліс:**

— Мы не працуем дзеля сваёй карысці. Мы дапамагаем іншым.

**Кот:**

— Дапамагаем іншым!

**Ліс:**

— Ну і як?

**Бураціна:**

— Іду з вамі!

## СЦЭНА VI

**Апавядальнік:**

— Ішлі, ішлі, ішлі. Калі здарожаныя дайшлі да карчмы «Пад чырвоным ракам», настаў вечар.

**Ліс:**

— Зробім сабе перапынак у дарозе, з’ямо і адпачнем некалькі гадзін. Апоўначы пойдзем далей, каб досвіткам апынуцца на Полі цудаў. Папрашу два зручныя пакоі: адзін для спадара Бураціна, а другі для майго сябра і для мяне. Трэба прыкласці галаву да падушкі перад далейшай вандроўкай. Пасля поўначы выходзім, таму просім нас разбудзіць.

**Шынкарка:**

— Так і будзе!

**Апавядальнік:**

— Бураціна лёг у ложак і неадкладна заснуў. Яму снілася, што ён ходзіць па полі, на якім растуць кусты абвешаныя залатымі манетамі.

**Шынкарка:**

— Прачынайцеся, спадар Бураціна.

**Бураціна:**

— Ці мае сябры гатовы ісці ў дарогу?

**Шынкарка:**

— Вядома. Выйшлі дзве гадзіны назад.

**Бураціна:**

— А што іх так падагнала?

**Шынкарка:**

— Кот дастаў паведамленне, што яго старэйшы сын адмарозіў лапы і памірае.

**Бураціна:**

— Ці яны расплаціліся за вячэру?

**Шынкарка:**

— А адкуль у вас такая думка? Яны ж джэнтльмены і не маглі вас так зняважыць.

**Бураціна:**

— Шкада. Гэтая «знявага» была б мне вялікай палёгкай. А дзе мае сябры вызначылі мне сустрэчу?

**Шынкарка:**

— На Полі цудаў, заўтра досвіткам.

**Апавядальнік:**

— Бураціна пайшоў у дарогу. Ішоў у вобмацкі, бо было цёмна. Цішыня звінела ў вушах.

**Бураціна:**

— Хто тут? Хто тут? Хто ты?

**Цвыркун:**

— Ты мяне не пазнаў?

**Бураціна:**

— Гэта ты, Цвыркун. Чаго хочаш?

**Цвыркун:**

— Хачу даць табе адну параду. Вяртайся дадому, а гэтыя чатыры манеты, што ў цябе яшчэ засталіся, аддай свайму бацьку, які дурэе з адчаю, што страціў цябе назаўсёды.

**Бураціна:**

— Заўтра мой татка будзе багаты, бо гэтыя чатыры манеты заменяцца ў дзве тысячы.

**Цвыркун:**

— Дарагі хлапчук, не вер тым, якія абяцаюць табе залатыя горы за два дні. Слухай мяне і вяртайся да бацькі.

**Бураціна:**

— А я якраз хачу ісці далей.

**Цвыркун:**

— Цяпер ноч. Не ведаеш дарогі...

**Бураціна:**

— А я і так пайду далей.

**Цвыркун:**

— Можа сустрэць цябе бяда!

**Бураціна:**

— Хачу ісці і пайду!

**Цвыркун:**

— Памятай, упартыя і непаслухмяныя дзеці раней ці пазней гэтага шкадуюць.

**Бураціна:**

— А я не пужаюся. Дабранач, Цвыркун.

**Цвыркун:**

— Дабранач, Бураціна, і няхай добрыя духі ахоўваюць цябе ад імглы і разбойнікаў.

**Бураціна:**

— Калі добра падумаць, дык мы, дзеці, надта бедныя. Усе нас крытыкуюць і яшчэ даюць парады. Гаварушчы Цвыркун. Нават не думаю слухаць гэтага зануду, які наваражыў мне адны няшчасці. Калі ж сустрэну ў дарозе нейкага разбойніка, пагляджу яму ў вочы і крыкну...

**Ліс:**

— Грошы або жыццё!

**Кот:**

— Хопіць ужо гэтай камедыі! Выцягвай грошы!
**Ліс:**
— Аддай грошы або згінеш!
**Кот:**
— Або згінеш!
**Ліс:**
— Спачатку скруцім шыю табе, а пасля твайму бацьку.
**Бурацiна:**
— Не, не! Пашкадуйце майго татку!
**Кот:**
— Ты — гультай! Схаваў дукаты пад язык. Выплюні іх, хутка!
**Ліс:**
— Ах ты, прыкідваешся глухім? Мы табе дапаможам выплюнуць грошы!
**Кот:**
— Маю ідэю. Павесім яго! Так будзе найлепш.
**Ліс:**
— Вернемся заўтра. Спадзяюся зробіш нам ласку і да заўтра памрэш.
**Кот:**
— Спадзяемся, што тады адчыніш рот.
**Бурацiна:**
— Татачка! Калі б ты быў цяпер са мной...

## СЦЭНА VII

**Варожка:**
— Прылятай, мой верны сокал !
**Сокал:**
— Чакаю тваіх загадаў, чароўная Варожка.
**Варожка:**
— Ці бачыш ты гэтага паяцыка, што вісіць на галіне Вялікага дуба?
**Сокал:**
— Бачу.
**Варожка:**
— Тады ляці да яго, перарэж дзюбай шнурок, на якім ён вісіць і прывядзі яго да мяне. Выпі гэта, а неўзабаве паздаравееш.
**Бурацiна:**
— А яно горкае ці салодкае?
**Варожка:**
— Горкае, але вылечыць цябе.
**Бурацiна:**
— Я не п'ю горкага.
**Варожка:**
— Выпі, а пасля дам табе цукру.
**Бурацiна:**
— Спярша пакажы мне цукар. Спачатку з'ем цукар, а потым вып'ю гэтую дрэнь.
**Варожка:**
— Абяцаеш?
**Бурацiна:**
— Шкада, што цукар не лечыць. Я б лячыўся кожны дзень.
**Варожка:**
— А цяпер стрымай слова і выпі крыху гэтай аздараўляльнай мікстуры.
**Бурацiна:**
— Яна мне надта горкая. Надта! Я яе не буду піць. Дай мне яшчэ трошачкі цукру, а потым я вып'ю. Мне вельмі прыкра, але я не магу гэтага выпіць.
**Варожка:**
— А чаму ж?
**Бурацiна:**
— Я не буду піць гэту атруту!
**Варожка:**
— За свае капрызы трэба будзе табе паплаціцца!
**Бурацiна:**
— Нічога не змагу зрабіць!
**Варожка:**
— Праз некалькі гадзін высокая гарачка давядзе цябе да смерці.
**Бурацiна:**
— Мая каханая Варожка, дай мне неадкладна гэтую шкляначку. Малю цябе, не марудзь, я не хачу паміраць, ні за што на свеце не хачу паміраць.
**Варожка:**
— Сам бачыш, якую аздараўляльную моц мае маё лякарства. Чаму так доўга ты запіраўся яго выпіць?
**Бурацiна:**
— Усе дзеці так робяць. Баяцца лякарстваў больш за хваробу. Чарговы раз я не буду цырымоніцца.
**Варожка:**

— А цяпер раскажы, як ты апынуўся на гэтым дрэве?

**Апавядальнік:**

— І Бураціна расказаў пра тое, як Дырэктар цырка даў яму пяць залатых манет. Як сустрэў Ката і Ліса і як пайшоў з імі, каб памяняць пяць манет на дзве тысячы. Пра начлег «Пад чырвоным ракам» і сустрэчу з разбойнікамі...

**Бураціна:**

— ну і павесілі мяне на дрэве, і сказалі, што заўтра, калі ўжо пamру, яны вернуцца, каб забраць схаваныя ў роце грошы.

**Варожка:**

— А дзе цяпер гэтыя манеты?

**Бураціна:**

— Я іх згубіў.

**Варожка:**

— Дзе ты іх згубіў?

**Бураціна:**

— У лесе.

**Варожка:**

— Калі ты іх згубіў у суседнім лесе, дык яны зараз жа знойдуцца. Усё, што там губіцца, хутка знаходзіцца. Ідзем, пашукаем.

**Бураціна:**

— Гэта не так. Я не згубіў манет, я іх выпадкова глытнуў, піўшы лякарства. Чаму ты смяешся?

**Варожка:**

— Смяюся з тваіх хлусняў.

**Бураціна:**

— А адкуль ты ведаеш, што гэта хлусня?

**Варожка:**

— Хлусню лёгка раскрыць. Іх два сарты: у адных кароткія ногі, а ў другіх доўгі нос. Твае хлусні другога сорту.

**Апавядальнік:**

— Варожка дазволіла паяцыку плакаць і лямантаваць над сваім доўгім носам паўгадзіны. Хацела навучыць яго, што хлусня гэта найгоршы дэфект у дзяцей. Але ж калі пераканалася ў яго вялікім адчаі, апанавала яе літасць. Пляснула ў далоні і ў пакой прыляцеў статак дзятлаў. Яны селі на носе і пачалі так заўзята яго аб'ядаць, што неўзабаве стаў ён нармальнай велічыні.

**Бураціна:**

— У цябе, Варожка, надта добрае сэрца! Як я цябе кахаю!

**Варожка:**

— І я цябе кахаю. Калі хочаш, заставайся са мной і будзем жыць як брат з сястрою.

**Бураціна:**

— Ахвотна... але ж у мяне ёсць татка, што з ім?

**Варожка:**

— Твой татка дастаў паведамленне, што ты ў мяне і пакуль прыйдзе ноч, ён будзе з намі.

**Бураціна:**

— Дазволь мне выйсці яму насустрач. Хачу як мага хутчэй абняць і пацалаваць яго.

**Варожка:**

— Ідзі, глядзі толькі, каб не згубіцца. Ідзі проста лясной дарогай і абавязкова яго сустрэнеш.

**Апавядальнік:**

— Бураціна неадкладна адправіўся ў дарогу, а як толькі ўвайшоў у лес, пачаў бегчы як малое жарабя. Супыніўся паблізу Вялікага дуба, бо патрывожылі яго нейкія галасы.

**Ліс і Кот:**

— Бураціна???!!!

**Ліс:**

— Бураціна! Прывітанне! Што адбывалася з табою?

**Кот:**

— Што адбывалася?

**Бураціна:**

— Доўга аб гэтым расказваць, мо іншым разам. Скажу вам толькі, што ў гэтую ноч, калі вы мяне пакінулі ў карчме, я натрапіў на разбойнікаў...

**Ліс:**

— Мой ты бядняга! І што было далей?

**Бураціна:**

— Яны хацелі забраць мае залатыя манеты!

**Ліс:**

— Якія нягоднікі!

**Кот:**

— Нягоднікі!

**Бураціна:**

— Я хацеў уцячы, але ж яны гналіся за мной. Дагналі мяне і павесілі на галіне дуба.

**Ліс:**

— А дзе твае залатыя манеты?

**Бураціна:**

— Адной расплаціўся ў карчме, а чатыры ў маёй кішэні.

**Ліс:**

— Падумай толькі, заўтра замест чатырох манет, ты можаш мець іх дзве тысячы.

**Кот:**

— Чаму ты не паслухаеш маёй парады і не пасееш іх на Полі цудаў?

**Бураціна:**

— Цяпер не хапае мне часу. Можа пазней.

**Кот:**

— Пазней будзе запозна.

**Бураціна:**

— Чаму?

**Кот:**

— Чаму? Таму, таму, таму...

**Ліс:**

— Гэтае поле купіў нейкі багацей і з заўтрашняга дня нікому не дазваляецца сеяць там сваіх грошай.

**Бураціна:**

— Як далёка адсюль Поле цудаў?

**Ліс:**

— Усяго два кіламетры! Ідзеш з намі? Дойдзем праз паўгадзіны. Пасееш свае чатыры манеты і праз хвіліну збярэш іх дзве тысячы. Ужо сёння вечарам у цябе будуць кішэні поўныя грошай. Ідзеш з намі?

**Бураціна:**

— Іду з вамі.

**Апавядальнік:**

— Ішлі, ішлі, ішлі палавіну дня.

**Бураціна:**

— Далёка яшчэ гэтае Поле цудаў?

**Ліс:**

— Вось яно.

**Кот:**

— Тут.

**Ліс:**

— Капай ямку і кінь туды свае манеты. Цяпер прынясі з суседняй канавы вядро вады і падлівай сваё вырошчванне.

**Бураціна:**

— А мо на галінках куста замест тысячы манет знайду дзве тысячы? А мо замест дзвюх тысяч знайду пяць тысяч? А мо сто? Марыцца мне прыгожы замак, тысяча конікаў-гушкалак, тысяча канюшняў для гульні, склеп з процьмай салодкіх настоек, камора з пячэннем, тартамі, марожаным і халвой.

**Цвыркун:**

— Ха, ха, ха!

**Бураціна:**

— Гэта зноў ты, Цвыркун? Чаго рагочаш?

**Цвыркун:**

— Смяюся з даверлівых недарэкаў, якія дазваляюць абмануцца хітрунам.

**Бураціна:**

— Хіба не думаеш пра мяне?

**Цвыркун:**

— Вядома, што пра цябе, наіўны паяцык. Толькі ты такі легкадумны, што паверыш у тое, што можна пасеяць грошы як пшаніцу ці жыта.

**Бураціна:**

— Не разумею ў чым справа.

**Цвыркун:**

— Калі ты пайшоў па ваду, Ліс і Кот выграблі з зямлі твае грошы і далі драла.

**Бураціна:**

— Я сам сабе вінаваты. Быў упарты і не слухаў тых, што кахаюць мяне, хаця яны разумнейшыя за мяне. Цяпер буду паслухмяны. Я ўжо ведаю, што дзеці наводзяць на сябе бяду, калі не слухаюць і ўпарцяцца. А яшчэ мне страшэнна хочацца есці. Паспрабую гэты вінаг... Аў-у-у-у-у-у! Цвыркун! Цвыркун дапамажы!

**Цвыркун:**

— Як ты папаў у пятлю?

**Бураціна:**

— Хацеў сарваць вінаград...
**Цвыркун:**
— А ён твой?
**Бураціна:**
— Не.
**Цвыркун:**
— А хто навучыў цябе красці?
**Бураціна:**
— Я быў галодны.
**Цвыркун:**
— Голад не апраўдвае крадзяжу.
**Бураціна:**
— Ты праў. Пачакай! Я ўжо не буду.
**Селянін:**
— Злавіў цябе, злодзей! Гэта ты краў у мяне курэй!
**Бураціна:**
— Абсалютна не. Я толькі хацеў крыху вінаграду.
**Селянін:**
— Хто крадзе вінаград, можа красці і курэй. Правучу цябе, каб ты ніколі не краў. Цяпер позна і я іду спаць. Заўтра давядзем усё да канца. Цяпер зоймеш месца сабакі, які нядаўна здох. Калі прыйдуць злодзеі — падымай трывогу і брашы!

## СЦЭНА VIII

**Куніца 1:**
— Здароў Мелампа!
**Бураціна:**
— А я не Мелампа.
**Куніца 2:**
— А як цябе завуць?
**Бураціна:**
— Бураціна.
**Куніца 1:**
— Што ты тут робіш?
**Бураціна:**
— Берагу двор.
**Куніца 2:**
— А куды дзеўся Мелампа, стары шчыры сабака, які жыў у гэтай будзе?
**Бураціна:**
— Сёння раніцай ён здох.
**Куніца 1:**
— Здох? Шкада яго. Ён быў надта добры. Але і з табой дагаворымся.
**Бураціна:**
— Хіба не, бо я не сабака.
**Куніца 2:**
— А хто ты?
**Бураціна:**
— Я — паяцык.
**Куніца 1:**
— А што ты робіш у сабачай будзе?
**Бураціна:**
— Цярплю пакаранне.
**Куніца 2:**
— Прапаную табе такі дагавор, які ў нас быў з Мелампам.
**Куніца 1:**
— Ён табе спадабаецца.
**Бураціна:**
— А ў чым справа?
**Куніца 2:**
— Будзем наведваць куратнік раз у тыдзень, як і дагэтуль. Схопім сем куранят.
**Куніца 1:**
— З'ямо сем, а восьмае будзе табе, за тваё маўчанне.
**Бураціна:**
— А так рабіў Мелампа?
**Куніца 2:**
— Дакладна так і ўсім было добра. Лягай спаць, а заўтра на будзе знойдзеш смачную курку на сняданак.
**Куніца 1:**
— Гэта будзе наш падарунак. Разумееш?
**Бураціна:**
— Аж надта. Яшчэ вы пабачыце... Гаў! Гаў! Гаў!
**Селянін:**
— Што здарылася?
**Бураціна:**
— Куніцы!
**Селянін:**
— Што, куры?
**Бураціна:**
— Куніцы не куры.
**Селянін:**
— Дзе?
**Бураціна:**
— У кунніку. Цьфу! У куратніку!
**Селянін:**

— Ну і дасталі ў шкуру. Ты добры хлопец. Атрымаеш узнагароду за сваю сумленнасць. Ты свабодны. Ідзі проста ў хату.

## СЦЭНА IX

**Апавядальнік:**
— Бураціна доўга шукаў хату Варожкі. Усё марна. Блукаў у пошуках дарогі дадому і трапіў у краіну працавітых пчол. Па вуліцах гэтай краіны бегалі яе жыхары, усе надта занятыя і перагружаныя працай.
**Бураціна:**
— Я не здолеў бы жыць сярод такіх працавітых! Ці можаце мне дапамагчы адным грошам, бо кішкі марша граюць?
**Пчала 1:**
— Дам табе не адзін грош, але чатыры, калі дапаможаш мне дацягнуць дадому гэтую тачку.
**Бураціна:**
— Я не асёл і не буду нічога цягнуць.
**Пчала 1:**
— Не, дык не. Калі ты галодны, з'еш сабе два кускі сваёй ганарлівасці і глядзі, каб не разбалеў табе жывот!
**Бураціна:**
— Добры чалавеча, ці не дапаможаце адным грошам беднаму хлопчыку?
**Пчала 2:**
— Ахвотна дапамагу. Дапамажы мне толькі несці гэты мяшок, а заробіш пяць грошаў.
**Бураціна:**
— Я не прывыкшы насіць цяжар.
**Пчала 2:**
— Калі ты такі далікатны, тады надалей лаві мух і добра гуляй.
**Бураціна:**
— Ці пачастуеце мяне вадою?
**Варожка:**
— Калі ласка, пі на здароўе.
**Бураціна:**
— Я ўжо не хачу піць, але надалей хочацца мне... Хвілінку... такі сам голас... той самы колер вачэй і валасоў... вы вельмі... Ох, мая каханая Варожка, скажы, што гэта ты, сапраўды ты. Як я нацярпеўся! Як я жаласліва наплакаўся!
**Варожка:**
— Калі ты пакінуў мяне, я была маладой дзяўчынай. Цяпер я стала жанчынай і магла б мець сына ў тваім узросце.
**Бураціна:**
— Замест сястры ў мяне будзе мама. Я здаўна марыў, каб у мяне была маці, як у іншых дзяцей. Што ты рабіла, каб так хутка дарасці.
**Варожка:**
— Гэта сакрэт!
**Бураціна:**
— Выяві яго мне. Я таксама хачу трошкі дарасці. Я ўсё малы, быццам гном.
**Варожка:**
— Але ты не вырасцеш!
**Бураціна:**
— Чаму?
**Варожка:**
— Таму што драўляныя паяцыкі не растуць. Якога росту нараджаюцца, такога паміраюць.
**Бураціна:**
— Годзе ўжо быць паяцам! Прыйшоў час, каб я стаў чалавекам.
**Варожка:**
— Папросту, будзь добрым хлопцам!
**Бураціна:**
— Ці ж я не быў добрым хлопцам?
**Варожка:**
— Добрыя хлопцы слухаюць старэйшых, а ты...
**Бураціна:**
— Я ніколі нікога не слухаю!
**Варожка:**
— Добрыя хлопцы ахвотна вучацца і працуюць.
**Бураціна:**
— Я бадзяюся і гультайнічаю круглы год.
**Варожка:**
— Паслухмяныя хлопцы гавораць праўду.
**Бураціна:**

— Я заўсёды разыходжуся з праўдай.

**Варожка:**

— Добрыя хлопцы ахвотна ходзяць у школу.

**Бураціна:**

— А мне баліць жывот, як толькі ўспомню школу. Але з сённяшняга дня ўсё будзе па-іншаму.

**Варожка:**

— Ты гэта мне абяцаеш?

**Бураціна:**

— Абяцаю. Буду паслухмяным сынам, радасцю майго таткі. Дзе ж ён цяпер, бядняга?

**Варожка:**

— Не ведаю.

**Бураціна:**

— Ці прыйдзе такі час, што я абдыму і пацалую майго бацьку?

**Варожка:**

— Вядома, так будзе!

**Бураціна:**

— Матуля, а ты мяне не пакінеш?

**Варожка:**

— З гэтай пары ты мой сын. Будзеш мяне слухаць і рабіць усё, што я скажу. Заўтра пойдзеш у школу.

**Бураціна:**

— Добра. Я буду вучыцца і працаваць. І буду рабіць усё, што ты мне скажаш, бо надаела мне быць паяцам. Хачу стаць хлопцам! Абяцаеш мне, што так яно будзе?

**Варожка:**

— Абяцаю, але гэта залежыць таксама ад цябе.

## СЦЭНА X

**Апавядальнік:**

— Назаўтра Бураціна пайшоў у школу. Ведаеце, як здзіўляліся ўсе гарэзы, пабачыўшы паяца ў класе? Памiралі ад смеху! Кожны хацеў пажартаваць з яго! Здымалі яму шапку з галавы, цягнулі ззаду за каптан, намагаліся прымацаваць яму вусы. Бураціна ўсё ж такі стрымаў слова. Экзамены на канец года здаў вельмі добра і стаў выдатнікам.

**Варожка:**

— Заўтра здзейсняцца твае мары.

**Бураціна:**

— А канкрэтна?

**Варожка:**

— Заўтра пераменішся з драўлянай лялькі ў паслухмянага хлопца. Можаш запрасіць сяброў на ўрачысты сняданак, але вярніся да вечара. Абяцаеш?

**Бураціна:**

— Калі нешта абяцаю, дык так і будзе!

**Палка:**

— Здароў, Бурацiна!

**Бурацiна:**

— А ты куды?

**Палка:**

— О, вельмі далёка.

**Бурацiна:**

— А я якраз збіраўся ісці да цябе.

**Палка:**

— У чым справа?

**Бурацiна:**

— Ты нічога не ведаеш аб шчасці, якое мяне спаткала? Заўтра з паяца пераўтваруся ў хлопца і не буду ўжо ні ў чым адрознівацца ад вас.

**Палка:**

— Радуюся за цябе.

**Бурацiна:**

— Запрашаю цябе на ўрачысты сняданак. Заўтра ў хату Варожкі.

**Палка:**

— Я ж табе гаварыў, што выязджаю.

**Бурацiна:**

— А куды ты збіраешся?

**Палка:**

— Хачу пасяліцца ў самай шчаслівай краіне свету.

**Бурацiна:**

— У якой?

**Палка:**

— Гэта Краіна гультаёў. Хочаш са мной?

**Бурацiна:**

— Я? Гэта, на жаль, немагчыма.

**Палка:**

— Гэта дрэнна, што ты адкідаеш маю прапанову. Пашкадуеш яшчэ. Гэта

ідэальная краіна для дзяцей. Няма там школы, падручнікаў, настаўнікаў. Ніхто там не вучыцца. Чацвер там выхадны дзень, а ў кожным тыдні шэсць чацвяргоў і адна нядзеля. З першага студзеня па трыццаць першага снежня канікулы. Гэта краіна для мяне. Так павінна быць у кожнай цывілізаванай краіне.

**Бураціна:**
— А што робяць людзі ў гэтай краіне?

**Палка:**
— З раніцы да вечара гуляюць. Ноччу крыху спяць, а раніцай зноў гуляюць. І як табе падабаецца? І што? Едзеш, ці застаеш?

**Бураціна:**
— Не і яшчэ раз не! Я абяцаў Варожцы быць паслухмяным хлопцам і думаю стрымаць слова. Набліжаецца вечар і мне трэба вяртацца дадому. Жадаю табе добрай дарогі і бывай. Ты падарожнічаеш адзін ці з кампаніяй?

**Палка:**
— Адзін? Ты што! Дзяцей больш за сотню!

**Бураціна:**
— Будзеце вандраваць пешкі?

**Палка:**
— Неўзабаве прыедзе воз, каб забраць нас у гэтую шчасную краіну.

**Бураціна:**
— А ты ўпэўнены, што ў гэтай краіне няма школ?

**Палка:**
— Ніхто пра іх і не ўзгадваў!

**Бураціна:**
— І няма настаўнікаў?

**Палка:**
— Няма нават іх ценяў.

**Бураціна:**
— І нікому не трэба вучыцца?

**Палка:**
— Такога там і не бывае. Едзе!

**Бураціна:**
— Што такое?

**Палка:**
— Машына, якая мяне забярэ. А ты вырашыў, едзеш ці не?

**Бураціна:**
— А ты мне абяцаеш, што ў гэтай краіне ніхто не прымушае дзяцей вучыцца?

**Палка:**
— Даю маё слова.

**Бураціна:**
— Ах, гэта цудоўная краіна! Палка, чакай, еду з вамі!

## СЦЭНА XI

**Апавядальнік:**
— І вось, Бураціна даехаў да Краіны гультаёў. Гэта была адметная краіна. Жылі там выключна дзеці, якім было ад дзевяці да чатырнаццаці гадоў. На вуліцах безупынку праходзіў фэст. Вясёлыя гарэзы крычалі ад радасці. Гулялі ў жмуркі, класы, кеглі і мячык, каталіся на роварах і драўляных коніках.

**Бураціна:**
— Во якое бестурботнае жыццё.

**Палка:**
— Бачыш, ты добра зрабіў, паслухаўшы мяне. А ты ўжо быў гатовы вяртацца да Варожкі, каб далей карпець над кніжкамі. Дзякуючы мне, ты вядзеш жыццё свабоднага чалавека. Але ж на тое ў людзей сябры.

**Бураціна:**
— Палка, я ў раі і я тут дзякуючы табе. А ведаеш як асцерагаў мяне настаўнік: „Ты трымайся здалёк ад гэтага гультая Палкі, бо ён давядзе цябе да бяды".

**Палка:**
— Бедны настаўнік. Ведаю, ён пра мяне распавядаў усякія паклёпы. Але нічога, я яму дарую ўсе яго правіны.

**Апавядальнік:**
— Прайшло пяць месяцаў бесклапотнага, вясёлага жыцця, без абавязкаў і намаганняў. Аднойчы чакала Бураціна непрыемная неспадзяванка. Глянуўшы ў люстэрка, на яго здзіўленне, ён пабачыў свае вушы доўгія

як у зайца. Пачаў рыдаць, крычаць і валіць галавой у мур. Чым больш ён рыдаў, тым больш раслі яго вушы. Як на зло, на іх з'явілася густая поўсць.

**Цвуркун:**

— Што табе, дарагі сябра?

**Бураціна:**

— Я захварэў, Цвыркун, на нейкую дзіўную хваробу. Можаш мне палічыць пульс?

**Цвыркун:**

— Пастараюся.

**Бураціна:**

— Правер таксама, ці ў мяне няма гарачкі.

**Цвыркун:**

— Не хачу цябе палохаць, але ў цябе аслiная гарачка.

**Бураціна:**

— Што гэта за хвароба? Я пра такую ніколі не чуў!

**Цвыркун:**

— Усё табе растлумачу: праз дзве гадзіны ты не будзеш ні паяцам, ні хлопцам...

**Бураціна:**

— Тады кім я буду?

**Цвыркун:**

— Будзеш сапраўдным аслом, такім як тыя, што прыходзяць на базар, цягнуўшы за сабой вазы поўныя гародніны.

**Бураціна:**

— О я няшчасны, што я нарабіў!

**Цвыркун:**

— Нічога не зробіш. Я табе гаварыў, дзеці, якія замест вучыцца толькі гуляюць і гультайнічаюць, заўсёды дрэнна канчаюць.

**Бураціна:**

— І нічога ўжо з гэтым не зробіш?

**Цвыркун:**

— На жаль, нічога. Трэба было раней падумаць.

**Бураціна:**

— Але я ні ў чым не вінаваты. Гэта Палка.

**Палка:**

— Ты мяне клікаў, Бураціна.

**Бураціна:**

— Чаму ты закрыў вушы шапкай?

**Палка:**

— Доктар мне казаў так зрабіць, бо я пабіў калена. А ты, Бураціна, чаму насоўваеш шапку на нос?

**Бураціна:**

— Доктар мне так казаў, бо я скалечыў нагу.

**Палка:**

— Бедны паяцык!

**Бураціна:**

— Бедны Палачка!

**Бураціна:**

— Дарагі Палачка, не хварэў ты ніколі на вушы?

**Палка:**

— Ніколі! А ты?

**Бураціна:**

— Пакуль не, але сёння раніцай адчуў боль у адным з іх.

**Палка:**

— Я таксама!

**Бураціна:**

— Ты таксама? А якое табе баліць?

**Палка:**

— Абое. А табе?

**Бураціна:**

— І мне таксама. Ці ў нас тая самая хвароба?

**Палка:**

— Ой, здаецца, так!

**Бураціна:**

— Палачка, ці можаш мне зрабіць ласку?

**Палка:**

— З вялікай ахвотай.

**Бураціна:**

— Я хачу пабачыць твае вушы.

**Палка:**

— Вядома, але перш ты пакажы свае.

**Бураціна:**

— Не, я першы прасіў цябе.

**Палка:**

— Але дай прыклад і пакажы свае.

**Бураціна:**

— Здымем шапкі ў той самы час. Ты згодны?

**Палка:**

— Згодны.

**Бураціна:**

— Увага лічу: раз, два, тры!
**Палка:**
— Бураціна, дапамажы!
**Бураціна:**
— Што табе?
**Палка:**
— Не магу ўтрымаць раўнавагу на нагах.
**Бураціна:**
— Я таксама не магу.
**Апавядальнік:**
— Паколькі сябры не змаглі ўтрымацца на нагах, пачалі хадзіць на карачках. І іхнія рукі сталі нагамі, твары аслінымі пысамі і вырасла ім шэрая поўсць з чорнымі палоскамі. І не было гэта яшчэ самым горшым. Найбольш прыніжанымі адчулі сябе, калі ім выраслі хвасты. І Бураціна як аслюк апынуўся на базары.
**Купец:**
— Колькі хочаце за гэтага хворага асла?
**Прадавец:**
— Дваццаць ліраў.
**Купец:**
— Годзе, мая страта, дам за яго дваццаць сольдаў, бо патрэбна мне шкурка на бубен нашаму аркестру. Утаплю яго ў моры, а потым здзяру з яго шкуру.
**Апавядальнік:**
— Аслюк быў пад вадой амаль гадзіну. Купец сцвердзіў, што ён ужо ўтапіўся. Пачаў цягнуць канат прывязаны да аслінай нагі. Цягнуў, цягнуў і каго выцягнуў? Не мёртвага аслюка, а жывога паяцыка.
**Купец:**
— А дзе ж падзеўся аслюк, якога я кінуў у мора?
**Бураціна:**
— Гэта я.
**Купец:**
— Ты гультай! Робіш з мяне дурня?
**Бураціна:**
— Нават і не думаў, праўду гавару!
**Купец:**
— А ў які спосаб у марской вадзе ты з асла пераўтварыўся ў паяца?
**Бураціна:**
— Напэўна салёная вада так мяне адмяніла. У мора свае спосабы.
**Купец:**
— А дзе ў мяне былі вочы, калі я аддаваў за цябе дваццаць сольдаў? Страціў іх назаўсёды! А дзе я вазьму іншую шкурку?
**Бураціна:**
— Не перажывайце! На гэтым свеце нямала аслоў. Вы мяне куплялі, каб мяне забіць. Але з літасці кінулі ў мора з каменем на шыі. І я вам гэтага не забуду. Але вы не ўзялі пад увагу Варожкі.
**Купец:**
— Не хачу ўжо цябе слухаць! Хачу свае дваццаць сольдаў, якія аддаў за цябе. Маю класную ідэю. Занясу цябе на базар і прадам як драўніну на распалку.
**Бураціна:**
— А прадавайце, калі ласка!
**Апавядальнік:**
— Бураціна хутка скокнуў у мора і знік. Відаць было толькі чорную кропачку, якая час ад часу адрывалася ад вады. Гэта Бураціна куляўся і махаў нагамі як вясёлы дэльфін. Знячэўку Бураціна пабачыў высокую скалу, якая вынырнула з марской вады. Быў у палавіне дарогі ад яе, калі перад вачамі пабачыў страшэнны лоб марской пачвары, якая ўмомант глынула беднага паяцыка.

## СЦЭНА XII

**Бураціна:**
— О я няшчасны! Ці ж няма для мяне ніякага паратунку?
**Тунец:**
— А адкуль чакаеш паратунку, бядняга?
**Бураціна:**
— Хто тут?
**Тунец:**
— Я — тунец. Трапіў у пашчу акулы разам з табою. А ты якая рыба?

**Бураціна:**
— А я не рыба. Я — паяцык. Перажываю, як мы дамо сабе рады ў гэтай апраметнай цемры?
**Тунец:**
— Няма для нас паратунку. Трэба чакаць, пакуль нас акула не ператравіць.
**Бураціна:**
— А я не хачу быць ператраўлены.
**Тунец:**
— А ты думаеш, што я хачу? Суцяшаю сябе думкай, што для рыбы большы гонар памерці ў моры, чым на патэльні.
**Бураціна:**
— Прабачце, але я перш-наперш думаю, як уцячы.
**Тунец:**
— Паспрабуй, мо ўдасца.
**Бураціна:**
— Вялікая гэтая акула?
**Тунец:**
— Яго тулава мае каля кіламетра, а яшчэ хвост.
**Бураціна:**
— А адкуль святло ў жываце акулы?
**Тунец:**
— Гэта нейкі няшчаснік, які таксама чакае, каб яго ператравіць.
**Бураціна:**
— А можа гэта нейкая вопытная рыба, якая дапаможа ўцячы? Іду яе пашукаць. Будзь здароў, Тунец.
**Тунец:**
— Усяго добрага.
**Апавядальнік:**
— Бураціна, блукаючы ў цемры, ішоў у бок святла. Чым яно было бліжэй, тым свяціла мацней. Нарэшце ён дайшоў і што пабачыў? Пабачыў па-святочнаму засланы стол, асветлены свечкай у зялёнай бутэльцы. За сталом бяседаваў старэйшы сівенькі чалавек.
**Бураціна:**
— Татулік! Нарэшце я зноў з табой, каханы татка! Ніколі ўжо не разлучымся! Ніколі-ніколі!
**Джапета:**
— Ці гэта не прывід? Гэта сапраўды ты?
**Бураціна:**
— Гэта я, Бураціна. Татка, ты не злуеш на мяне, праўда? Калі я ўзгадаю, што я зрабіў...
**Апавядальнік:**
— Яны абняліся і доўга расказвалі пра свае прыгоды пачынаючы з таго, як непаслухмяны паяцык прадаў лемантар.
**Джапета:**
— ...і мая лодка перакулілася. Пакарысталася гэтым акула і глытнула мяне. Жыву тут ужо два гады, а доўжацца яны як два стагоддзі.
**Бураціна:**
— А чаму ты жывеш? Адкуль у цябе свечкі і запалкі?
**Джапета:**
— Усё па чарзе раскажу. Шторм быў такі страшны, што затапіў не толькі маю лодку, але і карабель. Экіпаж пеpажыў, але карабель пайшоў на дно. Акула ў той дзень была пражэрлівая і глытнула мяне, а затым увесь карабель.
**Бураціна:**
— Нельга дарэмна траціць час. Трэба запланаваць уцёкі.
**Джапета:**
— А магчыма адсюль уцячы?
**Бураціна:**
— Выйдзем праз пашчу акулы, скочым у мора і адплывем.
**Джапета:**
— Праблема такая, што я не ўмею плаваць.
**Бураціна:**
— Гэта не перашкода, я плаваю як рыба. Сядзеш на мяне і выгадна даплывеш да берага.
**Апавядальнік:**
— Дарога праз жывот акулы была вельмі доўгая. Ідучы ўгару яны дайшлі да вялізнай пашчы. Асцярожна прайшлі па языку монстра, які даўжынёю і шырынёю напамінаў паркавую алею. Акула спала моцным сном, нат гарматы не разбудзілі б яе. Скочылі

ў ваду і пасля многіх гадзін даплылі да берага.

## СЦЭНА XIII

**Бураціна:**
— Моцна абапрыся на мяне. Не будзем спяшаць.
**Джапета:**
— А куды мы ідзем?
**Бураціна:**
— Можа знойдзецца гасцінны дом і гаспадар, які не пашкадуе лусты хлеба і саломы на пасланне.
**Ліс:**
— Бураціна, дапамажы бедным інвалідам.
**Кот:**
— Інвалідам.
**Бураціна:**
— Вы — ашуканцы і я не хачу вас ведаць. Вы ўжо раз выкарысталі маю даверлівасць, але гэта быў апошні раз. Не хачу вас ведаць!
**Ліс:**
— Злітуйся над намі.
**Кот:**
— Над намі.
**Бураціна**
— Бывайце, мярзотнікі.
**Джапета:**
— Бураціна, глянь куды мы папалі. Гэта наша мястэчка і наша...
**Бураціна:**
— ... хатка! Нарэшце буду спаць у маім ложачку.
**Джапета:**
— Так, сон нам патрэбны.
**Варожка:**
— Я ганаруся табою, Бураціна! У цябе добрае сэрца, таму забываю ўсе твае недапушчальныя ўчынкі. Дзеці, якія дапамагаюць сваім бедным і хворым бацькам, варты пахвалы і кахання, нават калі здараецца ім не быць эталонам паслухмянасці і добрых паводзін. Памятай, будзь разважны, а шчасце ўсміхнецца табе.
**Бураціна:**
— Тата, ці я ўжо... ці я... Я сапраўдны хлопец!
**Джапета:**
— Для мяне ты заўсёды ім быў!



Фота Аляксандра ВАСЫЛЮКА

# Змест




**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк,
Яланта Грыгарук,
Ян Карчэўскі,
Яўгенія Таранта

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі
**Рэдактар:** Мікола Ваўранюк

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Koncept Białystok

Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji